Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ
Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 9 (4860) 4 сакавіка 2016 г.



Скарбы рэалізму 7


Волату сатыры — 120 8


Еўрапейская літаратура па-беларуску 10


Балет з рапірамі 12


На хвалі ўспамінаў 16



# Музы вясны

***Жанчыны заўсёды былі сімваламі часу, квінтэсэнцыяй самога жыцця, не толькі чароўнымі музамі, але і таленавітымі творцамі. Крохкія (толькі звонку) дамы кожны дзень упарта рухаюць культуру нашай краіны наперад, працуючы ў самых розных установах: ад музеяў, галерэй да бібліятэк і музычных пляцовак. Яны ствараюць гісторыю, гадуюць дзяцей ды яшчэ і натхняюць на подзвігі мужчын. Імі захапляюцца жывапісцы і пісьменнікі, рэжысёры і скульптары, музыканты і драматургі... Сапраўды, роля, якая патрабуе вялікай аказнасці! Кожны раз творцы зноў адкрываюць знешнюю прыгажосць жанчыны, яе душэўную сілу і неверагодную, загадкавую абаяльнасць.***

***Жаночыя вобразы ў літаратуры і мастацтве мяняліся сотні разоў. Іх так шмат, што складана нават стварыць класіфікацыю: ад мудрых захавальніц хатняга ачага да выбітных артыстак, ад простых сялянак да пагардлівых княгінь, ад «дэманічных» прыгажунь да стрыманых бізнес-лэдзі...***

***Жанчына на старонках кніг ці палотнах мастакоў — не заўсёды ідэальная, у ёй змяшаныя светлыя і цёмныя бакі, і ў гэтым яе прыцягальнасць. Так прынята ў культуры і рэлігіі ўсіх народаў. Але сапраўдная жаноцкасць — гэта заўсёды ўменне кахаць ад усяго сэрца, ахвяраваць сабой, пераадольваць цяжкасці і пакуты, дарыць радасць і перамагаць. Складана сказаць, што больш прыцягальна: унутранае альбо вонкавае аблічча жанчыны, бо ў ёй усё гарманічна. Надыходзіць вясна — і гэта добры шанец адкрыць у сябе новыя таленты і сілы, абудзіцца ад зімовых турбот і нанова ствараць, захоўваць, змагацца за сваё шчасце, як робяць гераіні нашага сённяшняга нумара.***

***Адна з іх — народная артыстка Беларусі, оперная дзіва Ніна Шарубіна.***

**Марыя ВОЙЦІК**

**Чытайце на стар. 13**

# Натхненне ў спадчыну

## Святочны настрой ад сясцёр Шчамялёвых

**Мастацтва, якое пачынаецца з прыгажосці, зачароўвае эстэтыкай, вытанчанасцю, энергетыкай. Убачыўшы ўпершыню, адчуеш прыцягненне не толькі да работ, але і да творцы, палюбіш яго кожнай клетачкай. Якое мастацтва актуальнае сёння: экспрэсіўнае, свабоднае альбо традыцыйнае і душэўнае? Напэўна, тое, што не стаіць на месцы, адкрывае новыя сэнсы і паглыбляе ў нязведаную прастору.**

Наведаўшы выстаўку мастачак Маргарыты і Людмілы Шчамялёвых «Фарбы і ніткі», што адкрылася да жаночага свята ў Гарадской мастацкай галерэі твораў іх бацькі — Леаніда Шчамялёва, вы не проста атрымаеце ўражанні, а адкрыеце свет, у якім няма таямніц і жахаў, у якім звычайная дэталь важная, знакавая. Тут не заўважыце вычварнай фантастыкі, якая часта сустракаецца на палотнах асабліва маладых творцаў, не натрапіце на незвычайныя, мудрагелістыя сюжэты, а апынецеся ў рэальным жыцці з абсалютна знаёмымі сітуацыямі — міні-бытавымі гісторыямі.

Шчамялёвы ўпэўнена працягваюць справу бацькі. У Маргарыты і Людмілы розны падыход да творчасці. Хоць абедзве маладыя жанчыны захапляюцца кантрастамі, усё ж такі напрамкі ў мастацтве не аднолькавыя. Людміла жывапісец. Яе карціны падштурхоўваюць звярнуць увагу на імгненні. Сюжэты работ — нібы кадры з фільма: размовы на лаўцы, паходы жанчын па крамах і салонах прыгажосці, будзённая раніца маладой пары, гаспадары і хатнія жывёлы, суседскія стасункі і адносіны ў сям'і. Разглядаеш першую карціну, а ў наступнай бачыш яе працяг. Людміла сцвярджае, што «кадравы эфект» атрымліваецца выпадкова. Яна не імкнецца ствараць «жывапіснае кіно», але ж жыццёвыя моманты настолькі блізкія, што немагчыма іх аддзяліць.

**Чытайце на стар. 12**


Фота Кастуся Дробава.

*Мастачкі Людміла і Маргарыта Шчамялёвы на адкрыцці выстаўкі.*

## Пункцірам

✔ Інтэрв'ю Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі Цэнтральнаму тэлебачанню Кітая *CCTV* увойдзе ў 6-серыйны дакументальны фільм пад назвай «Адзін пояс, адзін шлях». Фільм прысвечаны эканамічнаму поясу Шаўковага шляху. Прэзідэнт Беларусі адказаў на шэраг пытанняў адносна найбольш значных вынікаў і перспектыў беларуска-кітайскага супрацоўніцтва. Фільм выйдзе ў эфіры Цэнтральнага тэлебачання Кітая ў чэрвені 2016 года. *CCTV* — найбуйнейшая дзяржаўная тэлекампанія, якая вяшчае з 1958 года.

✔ Вышэйшым Дзяржсаветам Саюзнай дзяржавы прынята рашэнне аб прысуджэнні прэмій Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2015 — 2016 гады. Сярод лаўрэатаў — аўтарскі калектыў у складзе аўтара ідэі, архітэктара, протаіерэя, настаяцеля Усіхсвяцкага прыхода ў Мінску Фёдара Поўнага, скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Слабодчыкава, архітэктара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Ігара Марозава — за помнік Свяцейшаму Патрыярху Аляксію ІІ. Прэміі Саюзнай дзяржавы ўдастоены аўтарскі калектыў у складзе народнага артыста Беларусі, мастацкага кіраўніка ансамбля «Сябры» Анатоля Ярмоленкі, кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Алега Елісеенкава, паэта Івана Юркіна — за альбом «Дзе каліна цвіла». Урачыстае ўручэнне прэмій па традыцыі плануецца правесці на Дні Саюзнай дзяржавы на «Славянскім базары ў Віцебску» ў ліпені.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з днём нараджэння галоўнага рэдактара газеты «Завтра» Аляксандра Праханава. «У Расіі і далёка за яе межамі Вы атрымалі прызнанне як бліскучы публіцыст, пісьменнік і выдатны грамадскі дзеяч. Высокай ацэнкі заслугоўвае Ваша работа ў якасці галоўнага рэдактара папулярнага выдання — газеты «Завтра», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. Прэзідэнт выказаў удзячнасць Аляксандру Праханаву, які застаецца адданым і надзейным сябрам нашай краіны, за значны асабісты ўклад у высакародную справу ўмацавання добрасуседскіх адносін паміж народамі Беларусі і Расіі.

✔ XXI пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаўных інфармацыйных агенцтваў Садружнасці Незалежных Дзяржаў пройдзе ў сярэдзіне сакавіка ў Душанбэ. Падчас сустрэчы плануецца разгледзець пытанні падрыхтоўкі да святкавання 25-годдзя Садружнасці, якое будзе адзначацца ў снежні. Кіраўнікі дзяржінфармагенцтваў абмяняюцца меркаваннямі аб рэалізацыі сумесных праектаў. Асаблівая ўвага будзе нададзена пытанням засваення новых мэдыятэхналогій і ўзаемадзеяння ва ўмовах іх шырокага ўкаранення.

✔ Аляксей Грос прадставіць Беларусь на XXV Міжнародным конкурсе выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2016», які пройдзе на XXV Міжнародным фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Такое рашэнне было прынята па выніках праслухоўвання дзесяці фіналістаў адборачнага тура прафесійным журы на чале з народным артыстам Беларусі Міхаілам Фінбергам. Маэстра перакананы, што ў Беларусі шмат таленавітых спевакоў, і многія з тых, хто спаборнічаў на сцэне, дастойныя выступаць на самых прэстыжных пляцоўках.

✔ Каля 200 майстроў з Беларусі, Літвы, Украіны і Расіі збяруцца сёння ў Гродне на традыцыйны кірмаш «Казюкі». Вуліца Савецкая — галоўная пешаходная ў Гродне — ператворыцца ў горад майстроў. Падчас майстар-класаў ахвотнікам прапануюць паўдзельнічаць у вырабе сувеніраў, паспрабаваць свае сілы ў коўцы або ганчарнай справе. У аддзеле ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага гарвыканкама зазначаюць, што цырымонія адкрыцця і канцэртная праграма прагучаць на трох мовах — беларускай, літоўскай і польскай.

# Музейнае супрацоўніцтва



*Фота Кастуся Дробава.*

Падчас XXIII Мінскай міжнароднай выстаўкі-кірмашу Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа падпісаў дамову аб супрацоўніцтве з Домам-музеем Аўэзава, які з'яўляецца структурным падраздзяленнем Інстытута літаратуры і мастацтва Камітэта навукі Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Казахстан. Па даручэнні дырэктара Інстытута літаратуры і мастацтва Уаліхана Каліжанава, дакумент з казахскага боку падпісала пісьменніца Святлана Ананьева, з беларускага — дырэктар Коласаўскага музея Зінаіда Камароўская.

# Музыка думак

## Кампазітары адлюстроўваюць беларускую сучаснасць

Пераканацца ў гэтым можна было на канцэрце «Насустрач XVI з'езду Беларускага саюза кампазітараў», які прайшоў 1 сакавіка ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэта быў свайго роду зрэз лепшых твораў нашых аўтараў. У зале гучалі кампазіцыі ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь. Дырыжор, заслужаны дзеяч мастацтваў Анатоль Лапуноў адзначыў, што мэта канцэрта — пазнаёміць слухача з сучаснай кампазітарскай думкай сваёй краіны, бо інтарэс да яе — таксама паказчык культуры нацыі.

Цікава, што канцэрт супаў з 80-годдзем аднаго з вядучых кампазітараў Беларусі Кіма Цесакова, так што яго творы прагучалі ў першым аддзяленні: лепшае, на думку аўтара, з яго спадчыны — сімфонія № 4 «Курапаты» і Эпіталама для струнных, ударных і фартэпіяна. У другім аддзяленні Алег Хадоска прадставіў сваю пятую сімфонію. Аркестр выканаў таксама сімфанічную фантазію «Накцюрн 2014» Галіны Гарэлавай, скерца с сімфоніі № 15 Дзмітрыя Смольскага і асцінату Андрэя Мдзівані. Тыя, хто ў гэты вечар аказаўся ў філармоніі, не толькі атрымалі эстэтычную асалоду, але і зразумелі, нарэшце, якія тэндэнцыі і напрамкі распрацоўваюць нашы кампазітары ў сваёй творчасці, што яны хочуць данесці людзям, якім жанрам аддаюць перавагу.

**Марыя ВОЙЦІК**

# «Савет старэйшын» Міншчыны

## ды іншыя вынікі працы пісьменнікаў вобласці

Сёння ў складзе Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі 79 творцаў, сярод якіх — празаікі, паэты, публіцысты, драматургі. За мінулы год імі выдадзена больш як 50 кніг для дзяцей і дарослых.

Старшыня Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Карлюкевіч адзначыў:

— Летась пячатку на наш удзел у творчым жыцці наклала 70-годдзе Вялікай Перамогі. У прабламатыцы, якую вы адлюстравалі ў сваіх творах, героіка-патрыятычнай тэме належыць значнае месца. Да таго ж, у нашым аддзяленні шмат тых, хто служыў у войску, ахоўваў межы нашай радзімы, таму ў іх творчасці заўважна глыбокае веданне ваеннай тэматыкі.

Алесь Мікалаевіч выказаў словы ўдзячнасці публіцысту Барысу Далгатовічу, аднаму са старэйшых літаратараў вобласці. Сваімі кніжнымі праектамі, што пабачылі свет у самых розных выдавецтвах, найперш у «Беларускай Энцыклапедыі імя П. Броўкі», Барыс Дзмітрыевіч унёс важкі ўклад у шанаванне памяці нашых суайчыннікаў, ураджэнцаў Беларусі, якія праявілі сябе ў гады Вялікай Айчыннай вайны, увогуле пакінулі след у ваеннай гісторыі.

Самае актуальнае для кожнага творцы пытанне — выданне ўласных твораў. На сходзе гаварылася пра тое, што шмат кніг выходзіць у дзяржаўных выдавецтвах, такіх як «Мастацкая літаратура», «Беларуская энцыклапедыя», «Беларусь», Выдавецкі дом «Звязда».

Алесь Карлюкевіч акцэнтаваў увагу на тым, што плён працы Мінскага абласнога аддзялення СПБ у многім залежыць ад падтрымкі яго дзейнасці з боку Мінскага аблвыканкама. Летась прадстаўнікі літаратурных колаў Міншчыны ўдзельнічалі ў сходах творчай інтэлігенцыі з губернатарам Мінскай вобласці. Пісьменнікі актыўныя ў культурным жыцці краіны: пабачыла свет кніга «Савет старэйшын», прысвечаная знакамітым людзям Міншчыны.

Не забыліся пра сайт Мінскага абласнога аддзялення СПБ. Адміністратар сайта Бажэна Ганушкіна прапанавала творцам вобласці шырэй выкарыстоўваць інтэрнэт-рэсурс для папулярызацыі іх дзейнасці.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

# Лірыка не без імпэту

Творчая вечарына маладой паэтэсы, сябра (дарэчы, самага маладога!) Саюза пісьменнікаў Беларусі, студэнткі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Кацярыны Массэ прайшла ў дзіцячай бібліятэцы № 6 імя Васіля Віткі. Аўдыторыя — старшакласнікі сталічнай СШ № 60 — даведалася, што пачынала Кацярына як рускамоўны аўтар, а не так даўно пачала пісаць па-беларуску, прычым спачатку лічыла гэта сваім чарговым творчым эксперыментам.

Разам з маладымі паэтэсамі Людмілай Клачко, Маргарытай Латышкевіч і Ганнай Мартынчык Кацярына Массэ паўдзельнічала і ў новай пастаноўцы «Чатыры пары года» Мінскага гарадскога тэатра паэзіі, пастаяннай сцэнічнай пляцоўкай якога стала Цэнтральная мінская гарадская бібліятэка імя Янкі Купалы. За адзін вечар перад вачыма гледачоў прайшло ўсё гадавое кола. Дзякуючы Маргарыце Латышкевіч гледачы займелі магчымасць пагукаць вясну і нават паўдзельнічаў ў спектаклі. Агністыя вершы Людмілы Клачко, поўныя летняй цеплыні, аздабляліся выдатнымі гітарнымі імправізацыямі лідара гурта «*Ivory*» Сяргея Бутоўскага. Ганна Мартынчык з дапамогаю маладых акцёраў тэатра «Сатрап» напоўніцу раскрыла перад гледачамі ўсе фарбы мудрай восені. А ў Кацярыны Массэ атрымаўся зусім не трывіяльны вобраз зімы, якому надалі адметнае адценне музыкі з гурта «*Dzivasil*».

Свята роднай мовы «Жывыя вытокі» ў Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры пачалося майстар-класам па выяўленчым мастацтве ад сябра Беларускага саюза мастакоў Уладзіміра Рынкевіча. У работах творцы знайшлі адлюстраванне любоў да родных мясцін і прыгажосць сінявокага краю. У фае Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага можна было пабачыць кніжную выстаўку «Нам засталася спадчына».

У межах сумеснага праекта Саюза пісьменнікаў Беларусі і Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры пісьменніцка-музейны «дэсант» наведаў Барысаў. Пісьменнікі Анатоль Зэкаў ды Іна Фралова, супрацоўніцы музея Лідзія Шагойка і Вольга Шаўчэнка сустрэліся з вучнямі мясцовай СШ № 2. А разам з першым сакратаром СПБ Генадзем Пашковым гэтая ж творчая дэлегацыя завітала ў Мінскую раённую цэнтральную бібліятэку, што месціцца ў пасёлку Міханавічы. Прысталічныя бібліятэкары зладзілі імпрэзу, прысвечаную творчасці народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**4 сакавіка** — *на творчую імпрэзу-адкрыццё выстаўкі фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага, прысвечанай кампазітару Міхалу Агінскаму, у Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы г. Мінска (пр-т Газеты «Праўда», 20). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**4 сакавіка** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» на паэтычна-музычную імпрэзу «Гэта ўсё для Цябе…» ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17.30.*

**9 сакавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**10 сакавіка** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**10 сакавіка** — *на свята дзіцячай кнігі ў Мінскім гарадскім адукацыйна-культурным цэнтры «Лідар» (пас. Ждановічы) з удзелам пісьменніка Анатоля Зэкава. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**9 сакавіка** — *на літаратурна-музычны вечар «Веры тонкая свеча» з удзелам віцебскіх пісьменнікаў і прадстаўнікоў Віцебскай духоўнай семінарыі ў Віцебскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна. Пачатак а 14-й гадзіне.*

*Дзеля развагі*

# Крытыка як меркаванне

**Пра яе нагадалі ў Гродне падчас семінара «Літаратурная крытыка на сучасным этапе: сацыякультурная функцыя», арганізаванага філалагічным факультэтам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы і абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

Загадчыца кафедры рускай літаратуры прафесар ГрДУ Тацяна Аўтуховіч задала тэму размовы на «круглым стале»: якія задачы выконвае літаратурная крытыка ў наш час, ці дапамагае злучыць пісьменніка з чытачом? Але насамрэч падчас размоў хацелася думаць пра тое, што такое крытыка: гэта ад слова «крытыкаваць» ці ад значэння «мець меркаванне»? Некаторыя выступоўцы ўзгадвалі даўнія традыцыі крытыкаў Белінскага і Дабралюбава, якія (на гэта таксама звярнулі ўвагу) хутчэй стваралі публіцыстыку на глебе літаратурнай творчасці, ставілі пытанні, актуальныя для тагачаснага расійскага грамадства ў тых умовах, калі пра шмат што сказаць было немагчыма, хіба толькі выйсці на размову праз крытычны аналіз твора.

І вось XXI стагоддзе, Рэспубліка Беларусь, мы разважаем пра актуальнасць літаратурнай крытыкі, якой прысвяцілі семінар, таму што праз яе ёсць магчымасць размаўляць з людзьмі, даносіць думкі.

**Іван Саверчанка, доктар філалагічных навук, прафесар, адзначыў:**

— Роля літаратуры, роля мастацкага слова, роля культуры, не зменшылася. Гэта падмурак, на якім прарастае дзяржаўнасць, палітычная культура, міжнародная культура, бізнес-культура. Нездарма кіраўніцтвам Акадэміі навук Беларусі было прынятае рашэнне ўзнавіць дзейнасць Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Асноўны кірунак нашага літаратуразнаўства — тэксталогія, выданне твораў класікаў літаратуры, аддзел тэорыі, аддзел гісторыі беларускай літаратуры. Я як кіраўнік гэтай установы планую стварыць спецыяльны аддзел літаратурнай крытыкі. Калі мы маем сур'ёзную падтрымку на дзяржаўным узроўні, значыць, у грамадстве ёсць запатрабаванасць у развіцці літаратуры. У нас, у беларускай літаратуры, ёсць творы як мастацкія з'явы, ёсць аўтары, якім удалося ўлавіць і перадаць адметнасць беларускай сучаснай рэчаіснасці, раскрыць прычыны, якія паўплывалі на фарміраванне асаблівага светапогляду людзей.

Сапраўды, кнігі выдаюцца, іх шмат — калі глядзець па колькасці назваў. Заклапочанасць выклікаюць тыражы. Можна знайсці тлумачэнне: у наш час чытаюць і на іншых носьбітах, інтэрнэт прапаноўвае безліч варыянтаў чытва. Ці робіць чалавека ўдумлівым чытачом «бесконтрольное распаўсюджванне тэкстаў»? Так абазначыў гэтую з'яву **Сяргей Кастырка, расійскі крытык, пісьменнік, літаратурны аглядальнік часопіса «Новый мир»**, і патлумачыў асноўныя змены ў функцыянаванні крытыкі:

— Традыцыйная крытыка — пасрэднік паміж чытачом і пісьменнікам. Зараз сваю функцыю крытык выконвае, але ў вельмі абмежаваным варыянце. Уласна літаратурная крытыка цяпер у Расіі — у рамках крытычных раздзелаў некалькіх тоўстых часопісаў, якія захавалі жанр разгорнутай рэцэнзіі. Літаратурная крытыка газет стала фактычна літаратурнай журналістыкай: калі тэкст пішацца ў залежнасці ад інфармацыйнай нагоды. Атрымліваецца, што цяпер літаратурная крытыка ў нас з'яўляецца своеасаблівай рэфлексіяй з нагоды рускай літаратуры і яе існавання. Але літаратура — гэта неабходны орган жыцця. Не можа жыць чалавек без мозга ў галаве. Без літаратурнай крытыкі не можа быць нармальнай літаратуры. Пісьменнікі павінны ўсведамляць, што яны робяць насамрэч, што ў іх атрымліваецца, а што не атрымліваецца. Усведамляць, якое месца іх літаратура займае ў літаратуры еўрапейскай, ці ў сусветнай.

Цікава, што за гарачымі размовамі выкрышталізавалася зерне, калі крытыцы адвялі важную задачу — выстаўляць крытэрыі якасці ў літаратуры ці наогул культуры.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

*Юбілеі*

# Перакладаў Кандрат Крапіва



**Мастацкі пераклад на працягу ўсяго жыцця з'яўляўся для яго адным з галоўных відаў літаратурнай творчасці, раўназначны ўласнай паэзіі, прозе, драматургіі, літаратурнай крытыцы і публіцыстыцы, ішоў побач з працай вучонага-філолага, дапаўняючы і ўзбагачаючы яе.**

Першыя вершы пісьменніка былі апублікаваныя ў 1922 годзе, першыя пераклады — у 1927-м. Ажно да 1980-х гадоў яны друкаваліся ў беларускай перыёдыцы. Перакладчыцкія работы Крапівы змяшчаліся ў калектыўных зборніках «Анталогія рускай савецкай паэзіі» (1936), «Руская савецкая паэзія» (1953), «Творах» і «Выбраных творах» вядомых пісьменнікаў (М. Гогаля, І. Крылова, А. Твардоўскага, Т. Шаўчэнкі, У. Шэкспіра) і ў асобных кнігах («Дзівакі-нябожчыкі» А. Чэхава, другая частка рамана Я. Гашака «Прыгоды ўдалага ваякі Швейка ў сусветную вайну», «П'есы» А. Астроўскага і інш.).

На жаль, да гэтага часу такая значная і разнастайная перакладчыцкая спадчына знакамітага літаратара не знайшла разгляду ні ў нашым літаратуразнаўстве, ні ў мовазнаўстве. Скажам, у грунтоўным манаграфічным раздзеле «Кандрат Крапіва», што ўвайшоў у 2-і том «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў 4-х тамах (Мінск, 1999), даследчык С. Лаўшук, назваўшы канкрэтна некаторыя з асноўных перакладаў пісьменніка, заўважае: «Высока ацэнены спецыялістамі пераклад другой часткі славутага рамана Я. Гашака «Прыгоды бравага ваякі Швейка» (1931), трагедыі Уільяма Шэкспіра «Рамэа і Джульета» (1954), твораў У. Маякоўскага, А. Міцкевіча, М. Някрасава, А. Твардоўскага, Ш. Руставелі». Аднак пацвярджэння гэтых слоў (якія спецыялісты ацэньвалі пераклады, дзе ацэньвалі?) у артыкуле не знайсці. Як не знайсці гэтага і ва ўсіх іншых шматлікіх публікацыях пра пісьменніка, і не толькі ў артыкулах, рэцэнзіях, але і ў навуковых манаграфіях. У той жа час Кандрата Крапіву мы можам смела паставіць у адзін шэраг з самымі выдатнымі беларускімі перакладчыкамі XX стагоддзя.

Кандрат Крапіва працаваў, за рэдкім выключэннем, у прасторы літаратур усходнеславянскай супольнасці, надзвычай блізкіх яму па гісторыі, культуры, мове. Выключэнне складаюць хіба што байкі А. Міцкевіча і Ю. Эйсманда, раман Я. Гашака, трагедыя У. Шэкспіра і ўрывак з паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры. XIII. Пасланне Тарыэля каханай» (1937). Пераклаў байкапісец і некаторыя творы К. Маркса, Ф. Энгельса і У. Леніна, а таксама вершаванае «Пісьмо працоўных Савецкай Грузіі правадыру народаў вялікаму Сталіну» (1936).

Але ж мовы, культуры польскага і чэшскага народаў яму былі далёка не чужыя. Што да Шэкспіра, то гэта быў, бадай, самы галоўны настаўнік Крапівы-драматурга. Пераклады ж з грузінскай мовы (праз падрадкоўнікі), класікаў марксізму-ленінізму былі запатрабаваныя вядомымі культурнымі і палітычнымі абставінамі (у прыватнасці, шырокім святкаваннем у канцы 1937 г. 750-годдзя паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры»).

Кандрат Крапіва звяртаў увагу на тыя творы, што адпавядалі характару яго ўласнага літаратурнага таленту. З рускай паэзіі гэта, напрыклад, «Эпіграмы» А. Пушкіна, «Забытая вёска» М. Някрасава, байкі І. Крылова, асобныя творы У. Маякоўскага («Незвычайная прыгода, што адбылася з Уладзімірам Маякоўскім на дачы», «Мы не верым!», «Апавяданне пра Кузнецкбуд і людзей Кузнецка», «Левы марш») і А. Твардоўскага ды іншых аўтараў. З украінскай — вершы і паэмы Т. Шаўчэнкі і С. Піліпенкі. Проза ў творчасці Крапівы-перакладчыка прадстаўлена творамі згаданых ужо А. Чэхава і Я. Гашака, таксама — В. Шышкова, М. Горкага і А. Вішні. Што да драматургіі, тут ён звяртаўся да п'ес А. Астроўскага, М. Гогаля, Д. Фанвізіна і, зноў жа, У. Шэкспіра.

З гэтага пераліку відно, што Кандрат Крапіва перакладаў найперш тыя творы і тых аўтараў, якім таксама былі не чужыя сатыра і гумар. Асобныя выключэнні абумоўлены некаторымі экстралітаратурнымі фактарамі. Аднак і ў такіх выпадках значэнне крапівінскіх перакладаў не абмяжоўваецца толькі іх пазнавальнай ці грамадска-палітычнай роляй. Яны адначасова маюць важкае эстэтычнае, літаратура- і моватворчае значэнне, выяўляюць вялікія эўрыстычныя здольнасці перакладчыка. Каб пераканацца ў гэтым, варта разгарнуць хаця б апошні том Збору твораў Кандрата Крапівы ў 6-і тамах, дзе асобныя з перакладаў надрукаваныя (байкі І. Крылова і А. Міцкевіча, паэтычныя творы Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага і А. Твардоўскага, апавяданне А. Чэхава «Хамелеон»).

**Вячаслаў РАГОЙША**

Працяг тэмы на стар. 8 ▶

*Дайджэст*

• Апошняя кніга Умбэрта Эка, падрыхтаваная ім самім, выйдзе ў Італіі. Зборнік эсэ пад назвай *«Pape Satàn Aleppe»* змяшчае тэксты калонак, якія Умбэрта Эка пісаў раз на два тыдні для часопіса *L'Espresso*. Гэта ўжо чацвёртае падобнае выданне, аднак апошняя кніга будзе дапоўненая інтэрв'ю і публічнымі прамовамі пісьменніка. 470-старонкавы збор прысвечаны праблемам сучаснасці. Таксама адметна, што апошняя кніга Умбэрта Эка стане першай кнігай для выдавецтва *La Nave di Teseo* («Карабель Тэзея»), сузаснавальнікам якога выступіў пісьменнік. Што да рускамоўных перакладаў, праз некалькі тыдняў маскоўскае выдавецтва *Corpus* мусіць прэзентаваць зборнік эсэ Умбэрта Эка «Пра літаратуру».

• Школьніца з Ліпецка Наталля Бяляева напісала кнігу «З Пушкіным за адным сталом». Дзяўчына зацікавілася гастранамічнымі густамі паэта пасля падарожжа ў Санкт-Пецярбург. Асабліва яна была ўражаная паходам у кавярню, дзе Аляксандр Пушкін быў нярэдкім госцем і дзе яго бачылі апошні раз напярэдадні дуэлі з Дантэсам. Па вяртанні дадому Наталля паставіла за мэту вызначыць, якія рэцэпты былі ў класіка ўлюбёныя. Вучаніца перапрацавала вялікую колькасць успамінаў пра Аляксандра Пушкіна. Кніга Наталлі Бяляевай атрымала прызнанне на Усерасійскім конкурсе работ старшакласнікаў. Бацькі вучаніцы выдалі кнігу за свой кошт. Некалькі асобнікаў аўтарка прэзентавала нашчадкам паэта. Цяпер школьніца хоча працягнуць сваю працу, звярнуўшы гэтым разам увагу на асобу і густы Мікалая Гогаля.

• Пісьменнік з Егіпта Ахмад Наджы асуджаны на два гады турэмнага зняволення за тое, што ў апошнім сваім творы апісаў сцэну сексуальнага характару. Напачатку справу супраць Ахмада Наджы вяла мясцовая пракуратура, аднак суд не палічыў зняволенне пісьменніка неабходным захадам і апраўдаў Ахмада. Неўзабаве да судовай справы далучыўся чытач, які паскардзіўся, што пасля азнаямлення з гэтымі сцэнамі ў яго раптоўна пагоршылася здароўе: падняўся ціск, ён стаў задыхацца, вельмі ўзмоцнілася сэрцабіццё. У выніку ўражлівы чытач патрапіў у бальніцу, а супраць Ахмада Наджы была заведзеная новая справа. Гэтым разам майстра сугестыўнай прозы асудзілі за абразу грамадскай маралі, а яго выдаўца абавязалі выплаціць штраф у буйным памеры.

• Расійскі фізік Уладзімір Аніскін, вядомы сваімі мікрамініяцюрамі, стварыў самую маленькую кнігу ў свеце. Яна ў 88 разоў меншая за апошнюю рэкардсменку, занесеную ў Кнігу рэкордаў Гінэса і створаную ў Японіі. Аўтар нестандартнага выдавецкага дасягнення плануе падаць адпаведную заяўку, каб зарэгістраваць сваю работу ў кнізе сусветных рэкордаў. Мініяцюра, прэзентаваная фізікам, мае памер 90 на 70 мікраметраў (0,07 міліметра на 0,09). Размешчаная яна на зрэзе макавага зернейка. Тэкст на старонках выкананы метадам літаграфіі, а старонкі нанізаныя на маленечкія спружынкі: кнігу можна гартаць на манер календара. Яна выкананая ў двух варыянтах: першы змяшчае рускі алфавіт, другі — пералік майстроў, якія здолелі падкаваць блыху. Іх усяго тры: Сядрысты, Алдунін і сам Аніскін. Акрамя таго, ён з'яўляецца стваральнікам вярблюджага каравана, размешчанага ў конскім воласе, які лёгка праходзіць праз ігольнае вушка, і шахматнага століка з арэхавай шалупінкі ў 2 міліметры ў вышыню.

Выказваем глыбокае спачуванне жонцы, родным і блізкім Пятра Сцяпанавіча ЛІСІЦЫНА, пісьменніка, інваліда Вялікай Айчыннай вайны, юрыста, які памёр на 89-м годзе жыцця. Светлая яму памяць!

*Сем'і Гарбачовых, Богушаў і Абрамовічаў.*



Вольга ГАПЕЕВА

# словы якіх няма

ёсць словы якіх няма
няма даўно і як яны гучаць ніхто
не можа ўзгадаць
яны былі калісь абавязкова
цяпер — маўклівы стогн
расцягнуты на дроце вечнасці
і да магілы не прыйсці
і я тужліва абдымаю голаў
іх сёстры, праўнучкі, стрыечныя браты
хаваюць у сабе танклявасць рысаў
якія разгадаць не можна ўслых
ускосныя вятры кранаюць шэптам вуха
іх мову мне не разабраць
як ім не зразумець жалобы позірк
паспешліва схаваны ў слоўнік
дзе на старонках разнастайнасць слоў
падмане
не мяне
я ведаю кагосьці нестае сярод тых літар
тых слоў якіх няма
але якія ёсць

***

параўнальны аналіз
траекторыі падзення лісця
што вырасла на дрэвах Берліна і Менска

параўнальны аналіз
траекторыі падзення лісця
што вырасла на дрэвах Берліна і Менска
быў праведзены намі напрыканцы жніўня
пры дапамозе вачэй і пачуццяў
асобы жаночага полу
ва ўзросце
не маладым і не сталым
у тым што акурат пасуе сядзенню
самотна за столікам і назіранню
за аб'ектам даследавання (viz. лісцем)
у аднаго гэта робіцца вынікам справы
трэба шпарчэй даляцець
і палёт паражыць як непазбежнае ліха
у гэтага лісця вага ў пашане
хутчэй датыкнуцца б наждачнай шчакі
травы
і гніць, парахнець, перамешваць пах свой
саспелы з паршткамі кветак
здабываючы паступова колер Той што
іх нарадзіла
а за некалькі сот кіламетраў
(дакладней 1031)
іншае лісце імкнецца схапіцца за вецер
каб як мага даўжэй затрымацца
на вертыкалі сцэны
звярнуць на сябе ўвагу і прожылкамі
пахваліцца
так дасканала сплеценымі на целе
каб праз гэты празрысты экран сонца
паспела сказаць
пра расклад гастроляў у гарадах іншых
і перадаць прывітанне сімпатычнай
лямпе дзённага асвятлення
каб позіркі з вокан насупраць, з-пад
акуляраў, брылёў і проста з-пад веек
даляталі, краналі, сачылі і не адпускалі
да самай апошняй хвіліны палёту
гэтае лісце
што нават долу будзе выкладваць
пазл з узору падгледзены
ім на спіне матылька
а пошум машын і крокаў будзе
здавацца авацыямі
і так да заканчэння сезона

***

ёсць такія краіны
дзе мора ўсяго толькі слова
значэнне якога
даведваешся са слоўніка
тэлевізара ды расповедаў іншых
і хоць там ёсць рэкі азёры і штучныя
вадасховішчы
басейны і лужыны
(як і ў краінах дзе ёсць мора)
а вось мора няма
я таксама жыву ў краіне
дзе кожнае лета восень і нават узімку
да вуха падносяць ракавіну
і настройваюцца на радыёхвалю "мора"
каб забыцца што тут няма выйсця
выйсця да мора
раней
едучы ў тралейбусе
мама садзіла мяне на каленкі
і я гледзячы ў далячынь на аблокі
што шчыльнай таўсматай палоскай
разляглісь на небе
казала сабе і іншым — а вунь там мора
так у маёй краіне з'яўлялася мора
пах ягоны быў ужо блізка
водарасці соль і нагрэтая сонцам скура
ну і вядома ж кірлі
няхай і са сметніка
зараз я ведаю
вызначаецца як безнадзейнасць
гэта калі не можна яе падмануць
яе — свядомасць
калі аблокі на гарызонце гэта — аблокі
а мора…
а мора — недзе не з намі

***

я цалую вецер з разбегу
на дэсерт замаўляю дзень з карамеллю
ну і што што збіралася ўзяцца шлюбам
я з ценем
мне і цяню твайго было б дастаткова
проста мова твая
не мела формаў у будучым часе
так я і засталася
у нейкім там плюсквамперфекце



Фота Кастуся Дробава.

***

бярлог твайго цела адшукаць давялося
запозна
быў час прачынацца і ісці прэч
з таго лесу
сумны агонь уядаўся мне пад лапаткі
адхінаў спадзяванні і
рушыў глыбей у вантробы
так пазбаўляў цеплыні каб магла я
запомніць
без полымя трэску мушу праз холад
замерзнуць
я кідала вогнішчу хруст сваіх костак і
косткі
хутка згаралі пакідаючы пыл і попел
чужынцы вуглём на мне малявалі
розныя гукі
казалі ёсць іншыя якіх ты і не чула
скрыгат па скуры праступаў
і белыя плямы
па мне разляталіся матылямі
неразуменне лісцем буяла на дрэвах
няўтульнасць пускала карэнні
і скоўвала рухі
ад сценаў пустых адскоквала рэха і дзіды
у языку застрагалі мне адмаўляючы
ў словах
так сталася што свабода у гэтых
шыротах не выжывае
як у шмат якіх іншых гукі чужыя
ёй шкодзяць
табе ж замянілі фіранкі і крумкачы
ў парку
ці гэта ты прыдумляў сваім страхам
такія імёны
даўжыні маіх валасоў усё адно не хапіла
ахаваць
прыцьміць бярлог твой ад сонца
быў час прачынацца і вяртаць цябе
твайму лесу
мне ж заставацца рыкам у мове
мядзведжай

***

і панядзелак, і мора
і жнівень мой самы чаканы сябра
таму што яго існаванне — прыезду
чаканне і ад'езду чаканне
такое як і ад цырка што на гастролях
парк з каруселлю куды пракаціцца
прыходзяць
дзеці вясны лета і восені
я ж — наўзбоч назіраю
зіме тут не месца
сябе ўяўляю часткаю свята аднак
застаюся звонку
карусельнага поні трымаць
за драўляную грыўку
хачу я ў самоце
у самоце са студзеньскім абыякавым
сонцам



Мар'ян ДУКСА

* * *

Бывае катэгорыя людзей
такіх прыгожых, хоць іх стаў
у вазу.
Яны — спаўненне ўсіх тваіх надзей.
Сустрэнеш іх — і сам цвіцеш
адразу.

І ты не сумняваешся ані,
што іх душа табе з нябёс паслана.
Уся яна з цяпла і дабрыні,
рукамі невядомымі спаткана.

Такая катэгорыя — ну ёсць!
Яна ад нараджэння ўся святая.
Яна ў душу сваю не пусціць злосць,
якая там зусім не прарастае.

* * *

Мой успамін не затухаў —
успыхвае ён пры нагодзе…
Дзе ж вы, каго я так кахаў,
калі ў душы было разводдзе?
Калі мой рушыўся спакой,
зямля скакала, як жывая,
калі душа была такой,
якой паўторна не бывае.
Вам лёс не ў мой — у іншы бок
дарожныя ўручыў білеты…
А ці ўзгадалі незнарок
мяне вы, мілыя Джульеты?
хоць раз з душы, з самога дна,
ці выплыў збеглы час святлісты?
Адна хоць памяці струна
ці не прачнулася ўрачыста?

* * *

А верш — не друкаваная паперка,
дзе чуецца ад рыфмы звон пусты,
Верш — думка, альбо віднaя
паненка,
з якой заўжды жадаеш
танчыць ты.
Вядома, у цябе вялікі шанец
мець пахвалу, што ты
сапраўдны зух,
як выдаць зможаш віртуозны
танец,
дзе хвацкі тэмп і незвычайны рух.
Але тады сапраўдны танец маеш,
твой зорны час залежыць ад таго,
якую думку шчыра абдымаеш,
да сэрца прыціскаючы свайго.

## Юбілейны верш

Гады спачатку ціхімі бываюць,
яны, як тыя кветачкі, цвітуць.
Яны спачатку з лялькамі
гуляюць —
Вой, як яны марудненька брыдуць!
Як соладка тады ўсім п'ецца, есца,
пар нейкі час, што мчыцца,
ты забудзь.
Гады, здаецца, тоўпяцца
на месцы —
як хочацца іх пугай сцебануць!
І не даймае сэрца сум ніякі,
і толькі радасць рассыпае звон…
Але гады нарэшце, як сабакі,
свой пачынаюць набіраць разгон.
І зараз проста ты даешся дзіву,
што час ужо, як самалёт, звініць.
Як хочацца тады яго за грыву
схапіць і шал ягоны супыніць.

***

Не ганарыся, геній, ты сваім адкрыццем,
ці варта надта доўга ў воблаках вітаць.
Сканцэнтраваўшы зрок і пры належным
спрыце,
тэкст вечнасці табе ўдалося
прачытаць.
Нам, невідушчым, невядомыя пісьмёны
расшыфраваць у нейкі светлы момант
змог.
Але ж парыў душы і плённы і натхнёны
спрэзентаваў табе, відаць, з нябёсаў Бог.
Сэнс адкрыцця — ён не паводле думак
вырас,
у часе існаваў задоўга да таго…
Разгорнем яшчэ раз запылены папірус —
глядзіш, і там ідзе гаворка пра яго.
Не ганарыся, геній, асаблівым лёсам,
не складвай піраміду са сваіх удач.
Так склалася: калі любімчык ты нябёсаў,
усё, што Бог стварыў, — адчуй,
знайдзі, убач.

***

Залётны, выпадковы снег
пасля сябе пакінуў гразь.
За пару дзён кудысьці збег.
І дождж цяпер — суддзя і князь.
Прынёс ён норавы свае
і дэманструе свой фасон.
Нібыта ў бубен, б'е і б'е
у недарэчны парасон.
І снегу зноў зусім няма,
ёсць мокры прыпамін аб ім.
Чаму ж ты, кволая зіма,
бездапаможная зусім?
Пасцель не сцелеш на кусты,
не ходзіш з белаю фатой.
Штосьці апусціла лейцы ты
і перастала быць сабой.
А нам вітаць ці не вітаць
прыроду — шчыра ў ладкі біць, —
якая хоча іншай стаць —
празмерна ліберальнай быць?

# Буслы і кветкі



Марына ПРАКОП

*Апавяданне*

Надзея сядзела ў офісе і сумавала. Ну што рабіць, калі кожны дзень адно і тое ж: ранішняя кава, праверка электроннай пошты і даклад начальству пра бягучыя справы?.. Улетку цёплую вопратку для будаўнікоў амаль што не запытваюць. А час адпачынку для супрацоўнікаў «БудАдзежы» яшчэ не наспеў. Начальнік, Іван Віктаравіч, асабліва не забараняў займацца сваімі справамі, калі на тое быў час. Але Надзея сядзела перад маніторам і кожную гадзіну правярала пошту.

Надышла пятніца. Начальства з'ехала па сваіх справах. Некаторыя калегі адпрасіліся. А Надзею, якая разышлася з мужам і пакуль не мела дзяцей, дома ніхто не чакаў…

Сяброўкі павыходзілі замуж, нарадзілі дзяцей і жылі сваімі клопатамі. Некаторыя з'ехалі за мяжу. Надзея ж дзеля забавы зарэгістравалася на адным з сайтаў знаёмстваў. Не, не спадзявалася на сур'ёзныя адносіны. Хацелася з кім-небудзь паперапісвацца.

Чакала нядоўга: аматары віртуальных забаў адразу ж заўважылі новую патэнцыяльную сяброўку. Пасыпаліся прапановы. Першым напісаў Васіль з-пад Жлобіна (але ці быў ён Васілём на самай справе?). Пасля з'явіўся нейкі Вова. На яго пісьмо адказваць не хацелася ўвогуле. А за Паўлам з Оршы напісаў мінчанін Віктар — граматна, з усімі знакамі прыпынку. Надзеі, колішняй выпускніцы філфака БДУ, гэта спадабалася. Да ўсяго Віктар пісаў цікава, з гумарам. Урэшце Надзея дала Віктару свой электронны адрас. Перапіска пачалася.

***

У жніўні Надзея на тры тыдні з'ехала ў адпачынак — зазіраць у інтэрнэт часу не было. У верасні, калі зноў выйшла на працу, Віктара ўжо не ўспамінала, і яго фота ёй не спадабалася: крыху паўнаваты, у цёмных акулярах… Яшчэ летам колькі разоў прапаноўвала сустрэцца, але Віктар не згаджаўся. «Мусіць, жанаты!» — вырашыла Надзея, так і не паслаўшы фотаздымак у адказ, хоць і абяцала. Аднак некалькі іншых здымкаў, дасланых Віктарам, усё ж ацаніла: на адным — буслы, на другім — кветкі. Гэтымі кветкамі Надзея і ўпрыгожыла манітор дамашняга камп'ютара.

***

У сацыяльных сетках можна хітраваць і хлусіць, але толькі калі не плануеш сур'ёзных адносін з субяседнікам. Вось і Надзея, каб уразіць Віктара, напісала, што кіруе аддзелам маркетынгу. Таму і яе «жыгулі» сталі іншамаркай А-класа, аднапакаёвая кватэрка ў Завадскім раёне ператварылася ў трохпакаёвую ў цэнтры. Імя таксама ёй абрыдла: вельмі простае, амаль што сялянскае. І Надзея стала… Аляксандрай! Ці паверыў Віктар, што кіраўніку аддзела можа быць дваццаць пяць гадоў, — ужо іншае пытанне. Калі ж табе дваццаць дзевяць, то адзіная мэта знаёмства (прынамсі, шмат хто так думае) — жаданне як хутчэй выйсці замуж і нарадзіць. А гэта пужала патэнцыяльных кавалераў.

…Прайшло тры месяцы. Надыходзіў новы год. Надзея ўжо даўно пакінула сайт знаёмстваў: хлусіць больш пра сябе не хацелася, а пасля Віктара цікавых субяседнікаў не траплялася.

***

Падчас перапіскі накруціў небыліц і Віктар. Па ўсім было відаць, што так званая Саша яму падабалася. Насамрэч жа Віктар быў проста фатографам Славікам. Пасля таго як выслаў свае праўдзівыя фота, Саша перастала выходзіць на сувязь. Тое, што ён не спадабаўся, адчуў адразу. «Яшчэ і фота паслаў, дурань!» — дакараў сябе Славік.

Цяпер, пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў, ён працаваў вэб-дызайнерам. Збіраўся набыць асабісты куток — балазе, зарабляў нядрэнна, — а пакуль наймаў кватэру ў Мінску. Чаму не хацеў сустракацца з Сашай? Дык яна ж кіраўнік, на дарагой іншамарцы, а ён хто?..

На Новы год Славік атрымаў добры заказ на здымку аднаго карпаратыву ў добра вядомым рэстаране. Плацілі някепска. Пасля працы Славе прапанавалі застацца ў рэстаране да раніцы, але яму яшчэ з вечара пазваніла Алеся, з якой Слава час ад часу сустракаўся. Маладая жанчына была ў разводзе, мела дзіцё. Але жылі яны з былым мужам у сумеснa пабудаванай кватэры.

На навагоднія святы і канікулы Алеся адправіла дачку да бацькоў, а сама па-абяцала да дзесяці гадзін быць у Славы, каб разам сустрэць Новы год. Але а дзесятай нікто так і не з'явіўся. Слава пазваніў сам.

— Славічак, каточак, выбачай, — вінаватым голасам прасіла Алеся, — я з Валерыкам памірылася. Вось ужо і стол накрылі…

Слава паклаў трубку, не слухаючы апраўданняў. Закінуўшы ў машыну пакеты з прадуктамі, накіраваўся ў бок МКАД. Бацькі будуць вельмі рады: ужо каторы год яны сустракаюць без дзяцей. Калі дарога чыстая, то без прыгод можна будзе дабрацца да бацькоўскай хаты да паловы на дванаццатую.

***

Надзея гэты год зноў планавала сустрэць з бацькамі і братам. Старыя, выйшаўшы на пенсію, прадалі трохпакаёвую кватэру ў Мінску. Грошай хапіла на невялікую аднапакаёўку для Надзеі, ладны домік для сябе за трыццаць кіламетраў ад Мінска і на пачатковы капітал для сына Ігара. У таго было сваё жыллё: зарабіў грошай на поўначы Расіі, а вярнуўшыся, набыў кватэру ў сталіцы і цяпер збіраўся адкрыць невялікую ўласную краму. Але спачатку хацелася стаць на ногі, бо ў трыццаць з хвастом ён яшчэ не быў жанаты.

Уся сям'я сабралася ў новай бацькоўскай хаце. А дзясятай гадзіне Надзеі пазванілі сяброўкі і прапанавалі прыехаць у Мінск, каб разам сустракаць Новы год. Зірнуўшы на гадзіннік, яна вырашыла застацца дома. Але маці не вытрымала:

— Сядай і едзь у Мінск. Лёс сам не прыйдзе ў хату. Усё ж весялей будзе з дзеўкамі. А Ігара можна зразумець: ён усё свой бізнес-план рыхтуе. У такіх, як твой брат, святаў ніколі няма. Ды і ўвогуле, ён і ў сорак зможа ажаніцца. А табе нельга час губляць.

— Ага, пакуль твар малады і прыгожы, — жартам дадаў бацька.

Не вельмі Надзеі хацелася ехаць, але слухаць буркатлівых старых яшчэ горш. «Калі што, паеду да сябе і да раніцы буду глядзець тэлевізар», — падумала яна.

Прыхапіўшы некалькі слоікаў з маласольнымі агуркамі і дамашнім павідлам, пакіравалася ў сталіцу. Дарога была чыстай, калі не лічыць некалькіх таксістаў, што куляй ляцелі да месца назначэння. Да Мінска заставалася кіламетраў дзесяць-дванаццаць. Раптам аднекуль выехаў стары «масквіч». Хутчэй за ўсе, і за рулём быў такі ж немалады чалавек. Вельмі хацелася зірнуць на спідометр. «Дзесяць кіламетраў у хвіліну, не болей», — падумала са злосцю. І вось тут упершыню ў жыцці асцярожная Надзея вырашыла выехаць на сустрэчную паласу, каб абагнаць калымагу. «А што? Дарога пустая, узгоркаў і перакрыжаванняў не відаць!». Цягнуцца за «карчом» да раніцы зусім не хацелася.

Пасля абгону яна не паспела выруліць на сваю паласу. Стукнуўшыся лоб у лоб з сустрэчным аўтамабілем, падзякавала Богу за тое, што здолела затармазіць, як і ўладальнік белай патрыманай іншамаркі, які рухаўся з процілеглага боку. Стукнуліся нямоцна, але і капоты крыху памяліся, і фары павыляталі. Мужчына ўключыў аварыйны сігнал, выйшаў з аўто, паставіў знак. Надзея баялася выйсці: першы раз за пяць гадоў яна стварыла аварыйную сітуацыю.

Мужчына пастукаў у акенца:

— Мадам, уключыце аварыйку і выходзьце, трэба выклікаць ДАІ.

Паслухалася.

— Прабачце, калі ласка, — са слязьмі ў голасе пачала яна. — Першы раз так зрабіла — і вось...

Прамармытала яшчэ нешта пра страхоўку, але мужчына перабіў:

— Разумею, што пасведчанне вы купілі! ДАІ чакаць давядзецца доўга: без фар уначы не паедзеш. Новы год будзем на трасе сустракаць. Ваша «дзіце Аўтаваза» хоць страхоўку мае? — весела запытаў мужчына.

Надзея ўспыхнула:

— Я, канечне, вінавата! Але вы самі? Наміналі б селядзец пад шубай з шампанскім, а замест таго цягаецеся па начной аўтастрадзе.

— Я маянэз не ем і шампанскае адзін не п'ю. Мусіць, вас шукаў, — з'едліва адказаў мужчына. — А, дарэчы, ці ёсць у вас дакументы? Даўно марыў патрымаць у руках купленае ў пераходзе пасведчанне або дыплом. Колькі каштуе, калі не сакрэт?

Перабранка хутка змянілася абаюдным смехам. На гадзінніку — дваццаць тры сорак пяць. Яны пазнаёміліся і сагналі машыны ўбок ад дарогі.

— Ну што, Надзея, у мяне ёсць тост, — задорна пачаў Славік, дастаючы са спартыўнай сумкі бутэльку шампанскага. — Давайце за Новы год!

— Я не супраць, — адказала Надзея. — А што, калі даішнікі прыедуць?

— Здаецца, гэта будзе не хутка: сёння спраў у іх хапае і без нас! — супакоіў Надзею Славік...

***

Вечарам, купіўшы кветкі і торт, госць з'явіўся на парозе.

У сціплай аднапакаёвай кватэры чыста і ўтульна, сервіраваны стол.

Зачаравалі кветкі ў руках госця.

— Дзе ты толькі знайшоў гэты цуд! Я такія бачыла толькі на фотаздымку! Зараз пакажу.

З гэтымі словамі кінулася да камп'ютара. На працоўным стале была тая самая застаўка: кветкі, якія ёй выслаў Віктар. Той, з кім яна даўно перастала падтрымліваць віртуальнае сяброўства.

— Вось, глядзі! Такія ж, здаецца. І як толькі ты здагадаўся, што яны мне падабаюцца!

Славік усміхнуўся:

— Ну што тут скажаш… мне яны таксама падабаюцца! Нешта падказвае, што ў цябе недзе павінен быць і фотаздымак з бусламі…

Надзея пачырванела, усё яшчэ не разумеючы, што адбываецца:

— Так, ёсць і буслы. А ты адкуль ведаеш?

— І не толькі ведаю, я ўпэўнены, паважаная Аляксандра, якая кіруе цэлым аддзелам і ездзіць на дарагой іншамарцы, — заявіў Славік. — Гэтыя здымкі рабіў я і толькі аднойчы адважыўся паслаць дзяўчыне, якая мне вельмі спадабалася. Але сам я, на жаль, не прыйшоўся да душы!

— Дык ты Віктар? Той самы Віктар, што кіруе буйным канцэрнам? — зразумела нарэшце Надзея.

— Той самы. Не чырваней! Мне таксама крыху сорамна. Але ўсё ж я вельмі ўдзячны лёсу, што ён дазволіў нам не згубіць адно аднаго. Вось табе і знаёмства ў інтэрнэце! Добра, што ты на справе такая прыемная дзяўчына. Шкада толькі, што табе не дваццаць пяць! — засмяяўся Славік і дадаў: — Прабач, жартую! Выглядаеш вельмі добра! Ведаеш, каб ты напісала мне праўду, я б тады сустрэўся з табой.

Надзея крыху адпомсціла жартаўніку:

— А каб ты мне праўду напісаў, я б і не прапаноўвала сустракацца. Мог бы і ўвогуле мяне не зацікавіць. Вельмі хацелася знайсці саліднага чалавека!

Яны яшчэ доўга жартавалі з таго, што калісьці пісалі адно аднаму.

А потым увесь вечар, шчаслівыя, што не страцілі адно аднаго, шпацыравалі па ўпрыгожанай зімняй сталіцы.



# Патрабаванне шчасця

З паэтам лепей размаўляць у адзіноце, сам-насам. Ты задаеш пытанні, а ён… Ён адказвае выдрукаванымі на паперы, прамоўленымі праз кнігу радкамі. Здараецца, словы, падараваныя вершам, выратавальна лечаць. Бывае, раняць. І ўсё ж шчаслівы той, хто размаўляе з паэзіяй і паэтам.




*Божа, выпусці мяне з рук!*
*Быццам дождж, прапусці*
*скрозь пальцы.*
*Я сябе забяру на памяць,*
*Нібы пацеркі, сабяру.*

*Чорнай стужкаю*
*ў валасы*
*Запляту я тваё дыханне.*
*Ты не бацька мне і не сын —*
*Пакахай мя…*

*Адпусці мяне! Цягнікі*
*Адыходзяць, каб не вяртацца*
*У цяпло беспрытульных станцый,*
*Дзе спаткацца не будзе з кім.*

Таццяна Сівец зборнікам «Разняволенне» прыйшла да чытача з самай, відаць, грунтоўнай кнігай паэзіі сярод сённяшніх маладых аўтараў. Ёй, выпускніцы акадэмічнай аспірантуры па літаратуразнаўстве, галоўнаму рэдактару літаратурна-мастацкіх перыядычных выданняў (кіравала і «Маладосцю», і «Літаратурай і мастацтвам»), — усяго толькі 33 гады.

І ўсё ж кніга паэзіі «Разняволенасць» — своеасаблівая мяжа, рыса, якая падсумоўвае здзяйсненне творцы. Гісторыя сучаснай літаратуры яшчэ толькі-толькі разглядаецца. Вось і ў апошняй «акадэмічнай справаздачы» (трэцяя кніга чацвёртага тома «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя») у артыкуле «Паэзія» пра аўтара «Разняволенасці» гаворка ў асноўным — разам з пералікам астатніх творцаў: з пазнакай, што ўплывы новай рэальнасці ў першую чаргу датычаць «творчасці прадстаўнікоў сярэдняга і маладзейшага літаратурных пакаленняў: Л. Сом, А. Спрынчан, А. Хадановіча, Т. Сівец…»; «… склаліся як паэты-ўрбаністы… прадстаўнікі новага літаратурнага пакалення, чый творчы плён стаў найбольш відавочны на пачатку XXI ст. (З. Вішнёў, С. Мінскевіч, В. Жыбуль, М. Башура, В. Гапеева, А. Данільчык, М. Южык. А. Спрынчан, Т. Сівец…)»; «Эмацыянальна-інтэлектуальнае напаўненне ўласціва паэзіі Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Н. Мацяш, Т. Бондар, (…) Л. Драньько-Майсюка, В. Шніпа, Л. Галубовіча, А. Каско, В. Русілкі, Л. Рублеўскай, А. Спрынчан, З. Падліпскай, Т. Сівец…» (знаходзіцца ў гэтым пераліку ганарова); «Асноваўтваральны канцэпт і разнастайныя мастацкія мадэлі кахання знайшлі ўвасабленне ў творчасці згаданай Р. Баравіковай, а таксама шматлікіх іншых паэтак: Н. Маеўскай, З. Дудзюк, М. Баравік, С. Шах, Н. Радзівончык, (…), Т. Сівец, А. Данільчык, І. Хадарэнкі…»; «…ствараюць нізкі і вянкі трыялетаў (М. Чарняўскі, М. Пазнякоў, В. Русілка, І. Карэнда, А. Зэкаў, Т. Сівец і інш.).»

Праўда, ёсць і больш акрэслены зварот: «У зборніку Т. Сівец «Таму, хто знойдзе…» (2008) антычнасць прысутнічае як частка светаадчування лірычнай гераіні». Але ж тады, калі пісалася гэта «гісторыя паэзіі», у Таццяны Сівец яшчэ не было кнігі вершаў «Разняволенасць».

Крытыкам і літаратуразнаўцам яшчэ давядзецца вывучаць яе, аўтара «Самага праўдзівага верша», унутраны свет, яшчэ давядзецца пачуць яе дыханне.

*Нават калі б гэты горад*
*змяшчаўся ў ракавінцы*
*смаўжа*
*І не было куды ўпасці ні яблыкам,*
*ні дажджам,*
*Я ўсё адно змайстравала б сабе сцяну,*
*каб не дакрануцца, не дакрану…*
*Маню!*
*Мне адменна знаёмае гэта рамяства:*
*Знітоўваць надзеі, каб зарніцы зноў —*
*па швох!*
*Мне гэтыя гульні дзіцячыя — у вайну, —*
*канешне ж, не ў навіну!*
*Маню! Я ізноў маню!*
*Ты кажаш сябрам, што стаміўся*
*ад цяжару*
*перамог!*
*Што, праўда, зусім не бог ты,*
*а толькі зрабіў*
*што мог.*
*(«Бачыце: позіркам гэткую прыручыў!»)*
*Не спадзявайся, воўча мой, вочы тут*
*ні пры чым!*

«Ведаеш, быць шчаслівым — зусім не цяжка!» — пераконвае нас лірычная гераіня Таццяны Сівец. І хаця ў паэтычных вышуках аўтаркі «Разняволенасці» шмат рэльефнага, розных карцін і дзеяў, усё ж прыцягвае найперш маналог гераіні, яе вострая спроба знітаваць каханне з жыццём. Навошта гэта лірычнай гераіні? Каб выкласці бязмежную ўладу кахання над чалавекам? Ці наадварот: каб паказаць безабароннасць кахання, яго слабасць перад маною, хлуснёю, перад згрызотамі бездухоўнасці і хуткаплыннасці нашага існавання ў свеце?..

Паэзію кахання Таццяна Сівец стварае па ўласных законах адкрыцця найвялікшага, найважнейшага сардэчнага пачуцця. І няважна, чаго ў гэтым пісьме болей — рэальнага, перажытога, разгледжанага, мастацкага, адцененага філасофіяй верша папярэднікаў. Галоўнае — вершы кранаюць даверам… І пасля вершаў Таццяны Сівец «***Калі ты не кахаеш, то можаш ужо не вяртацца!», «***Нам час развітацца. Мне час адыходзіць…», «***Я ўрастала ў цябе, як трава…» наўрад ці некага прывабяць радкі кшталту: «Цябе, о любы мой — кахаць — / Як кнігу дзіўную чытаць!..» Каханне — далёка не спевы серэнад і рамансаў, але найперш — жыццё.

І яго, жыццё, праз перажытыя і выпакутаваныя радкі інтымнай лірыкі, нясе чытачам Т. Сівец. «Бач-ты, трывала мяне прышыў: душу — да душы, / вусны да вуснаў, / быццам з надзеяю на стагоддзі, / а не на тузін сустрэчаў… / Сама вінаватая — падпусціла цябе на ўздых — вось і / не ведаю болей, дзе ты, а дзе я… Такое дзіва! / Ты паглядзі: / майго ў табе не засталося?» За такія радкі хочацца трымацца як за парэнчы моста, калі крыўды і здрады штурхаюць цябе ў бездань.

*І за тое, што ты мяне*
*гэтак весела забіваў,*
*ты, канечне, сягоння варты*
*найлепшых словаў!*
*Бо галоўнае — гэта тое, што захавала*
*зморшчынка ля брыва,*
*а не дзіўнае праздзіва літар*
*у нашых з табой галовах…*

Воля і моц кахання (якое і ёсць галоўны лірычны герой новай кнігі Таццяны Сівец) — тая дарога, у якую выправіўся талент маладой і разам з тым сталай паэткі на доўгія і доўгія гады, спадзяюся, шчаслівага суіснавання з чытачом праніклівым, якому да душы шчырасць.

Другую палову кнігі «Разняволенасць» складаюць пераклады Таццяны Сівец. Азербайджан прадстаўляюць вершы Лейлы Аліевай (яна піша па-руску), Чынгіза Аліаглы, Бахціяра Вагабзадэ, Арменію — Эдварда Мілітаняна, Казахстан — Нурлана Аразаліна, Адзільбека Ыбырайымулы, Любові Шашковай (беларуска, доўгі час жыве ў Казахстане, піша па-руску), Расію — Валерыя Казакова, Яўгена Лукіна, Славакію — Мірaслава Беліка, Барыса Брэндзы, Штэфана Цыфры, Яна Тазберыка, Петэра Мішака, Украіну — Аляксея Кананенкі, Алесі Сандыгі, Галіны Тарасюк, Тараса Шаўчэнкі. Таксама ў кнігу ўвайшлі пераклады чачэнскай паэзіі (Лула Куні), комі (Ніны Абрэзкава), калмыцкай (Рыма Ханінава, Вера Шуграева). Такая шырокая палітра перакладчыцкай увагі Таццяны Сівец сведчыць пра яе жаданні ахапіць шматнацыянальны, шматгалосы Космас Паэзіі. Заўважна, што паэты, чые творы аўтар «Разняволенасці» выбрала для пераўвасаблення на беларускую, — яркія, узроўневыя.

Завяршае кнігу арыгінальная паэма Таццяны Сівец «Баку». Твор — дарожны паэтычны дзённік, вандроўныя адкрыцці.

*З «Эпілога» паэмы «Баку»:*
*Мне трэба казаць «пакуль»*
*бакінскаму ветру.*
*Мне трэба ляцець дадому…*
*Манеты няма —*
*дык я кідаю ў мора*
*сэрца. Чуеце плёскат?*

Сэрцам гэты дзённік і напісаны, як і ўсе вершы «Разняволенасці», перажытыя шчырым і адкрытым талентам.

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Пад музыку душы

Калі дэбютныя кнігі выходзяць у маладых па ўзросце, але сталых па творчасці паэтаў, гэта заўжды падарунак. Першы зборнік вершаў Кацярыны Ваданосавай «Міфатворчасць» — яскравы таму прыклад. Вобраз вядомай музыкі і спявачкі выклікае асацыяцыі з фэнтэзі, пра што сведчыць і вокладка. Але ў тэкстах пераважае сярэднявечна-рыцарскі антураж. У сваім дэбютным зборніку вершаў маладая паэтэса імкнецца паяднаць рэаліі паўсядзённага жыцця з міфічным светам сваіх вершаваных мрояў, перакладаючы музыку душы на музыку паэтычнага гучання.

Галоўнае, што вылучае вершы Кацярыны Ваданосавай сярод сённяшняга маладога пакалення беларускіх літаратараў, — неверагодная мілагучнасць і мелодычнасць. Чытаючы іх, заўсёды чуеш пяшчотны і адначасова моцны голас ці то аўтара, ці то лірычнай гераіні. Кожны твор — чароўная гісторыя, якую хочацца слухаць бясконца. Паэтэса нібыта спявае калыханку сваім няздзейсненым пачуццям — шмат вады, рэкі-караблі, усё ўцячэ ці, пэўна, даўно ўжо сплыло далёка-далёка.

*Стаіць дзяўчына над ракой,*
*Пляце валошкавы вянок,*
*Пад белай тонкаю рукой*
*Згінае стан свой васілёк.*
*Прайшоў дзявоцтва вольны час,*
*Імклівай знічкай праляцеў,*
*І заўтра ёй ў астатні раз*
*Касу матуля распляце.*
*А Нёман бачыў сто вякоў,*
*О, колькі ён з сабою знёс*
*На хвалі ўскладзеных вянкоў*
*Ды чыстых слёз, дзявочых слёз.*
*Было і будзе так заўжды:*
*Рака, дзяўчына, небакрай,*
*І ў хуткім светлым шкле вады*
*Прамень, як залаты караль.*

Глыбока эмацыянальныя, узнёслыя і вельмі змястоўныя вершы Кацярыны Ваданосавай пакідаюць непаўторнае ўражанне. Беларусь у яе творах успрымаецца метафізічна праз дасканалае веданне гісторыі (Кацярына — гісторык па адукацыі), яна выходзіць на абагульненні праз сімволіку сноў і перажыванне бесперапыннасці існавання, у якім — адчуванне вечнасці:




Кацярына Ваданосава — фантастычны майстар метафары. Іх можна збіраць у зборніку прыгаршчамі і захапляцца, як каштоўнымі каменьчыкамі. Гэтая шчыльная метафорыка стварае незвычайны флёр таямніцы, які даволі рэдка знойдзеш у сённяшняй жаноцкай паэзіі. Неверагодныя вобразы, сугуччы, напеўнасць ствараюць з аскепкаў партрэт самой аўтаркі, паказваюць зменлівасць, іскрыстасць яе настрою, унутраную імклівасць і разняволенасць.

*Зноўку ноч. І халодная стома*
*Праліваецца ў розум ды плоць.*
*Адзінота, як млын стогадовы,*
*Прынялася ўспаміны малоць.*
*Жорны змеляць дашчэнту сусветы,*
*Страх праніжа ўсё цела да дна...*
*Сёння зноў не хапае паветра.*
*Сёння зноў не заснуць*
*да відна.*

Увага і чуйнасць да ўсяго навакольнага адчыняе для лірычнай гераіні свет жывёл: галубкі, змеі, багоўкі і рыбіны арганічна робяцца паўнавартаснымі героямі паэтычнага свету. Тонкія назіранні за простымі рэчамі паўстаюць наймацнейшым бокам кнігі, асабліва калі іронія добра ўплятаецца ў гэтыя назіранні, пазбаўляючы паэтычныя тэксты залішняга пафасу. Атмасфера чараўніцтва і містыкі, што пануе амаль ва ўсёй кнізе, палохае і прыцягвае адначасова.

*Бязлітаснай поўні палаючы знак*
*Гарыць па-над цёмнай зямлёю,*
*Завулкі ў палоне заганаў ніяк*
*Не зведаюць сну і спакою.*
*Далоні кладуцца на шпагі эфес*
*Пад гукі начной серэнады,*
*І танчыць фанданга вясёлая смерць*
*На вуліцах хціваай Гранады.*

Безумоўна, ёсць у кніжцы і «нюансы». Муляе сям-там шматслоўнасць, цяжкавата чытаць і тэксты песень, асабліва тых, што не раз чуў, і мелодыя круціцца ў галаве і не дае пачуць аўтарскую інтанацыю. Чытачам, якія ніколі не слухалі песень Кацярыны Ваданосавай і яе гурта *Alta Mente*, успрымаць яе «Міфатворчасць» будзе значна лягчэй.

Урэшце, уся кніжка гучыць як мелодыя, і чытаць яе варта так, як слухаюць добрую музыку, — то бок з павагай да аўтара, у цішыні. Можа быць, у самоце.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Крытэрыі жорсткага мастацтва




Аднойчы ў мяне адбылася цікавая размова з Навумам Гальпяровічам. Гутарка зайшла пра ягоную творчасць, дакладней — пра яе ацэнкі ў друку ці тэт-а-тэт з чытачом, які часцей за ўсё аказваецца сябрам ці калегам. Зразумела, у такіх варунках аб'ектыўнае слова наўрад ці пачуеш, — а так хочацца… Падборка вершаў Навума Якаўлевіча ў лютаўскім «Полымі» — цудоўная нагода спраўдзіць жаданне паэта.

Навум Гальпяровіч «пачуўся» як лірычны аўтар, засяроджаны на сваіх адчуваннях свету, на водгуках, якія ўзнікаюць у судакрананні з пейзажам і ўспамінам; ад гэтага ён пераходзіць да мыслярскіх падсумаванняў. Інтанацыі вершаў — лагодна-задуменныя, тужлівыя, але пры гэтым светлыя, бо адчувальна разуменне паэта, што свет у агульным ураўнаважаны, усё ў ім ідзе сваім ладам. Такім паўстаў паэт Гальпяровіч, і вось мінула нямала год, а ён усё той жа.

Самое слова «твор», калі ў яго ўслухацца, заключае ў сабе дзеянне, нараджэнне нечага новага. Стварэнне — а не паўтарэнне ці копія. Навум Гальпяровіч, аўтар далікатны і адданы гуманістычным ідэалам, вось ужо колькі гадоў паўтарае сам за сабой усё тыя ж тэмы і ўсё тым жа голасам. Само па сабе паўтарэнне нічога не значыць; у мастацтве «пра што?» заўжды саступае «як?». Галоўнае, каб займала дух. Але ў тым і справа… Ці не таму зноў друкуецца верш Н. Гальпяровіча пра сланечнікі Ван Гога, што ў іх якраз і ёсць тое адметнае, яркі штрых, сполах паэзіі?.. Вымалёўваецца партрэт паэта, які знаходзіцца сам у сябе ў палоне, заключаны ў звыклай вобразнай сістэме, творчай зоне камфорту. Мне як чытачу падаецца неабходным эксперымент, спроба адкрыць нешта новае для сябе, каб з'явіўся шанец стаць новым для іншых і цікавым для шырокага кола чытачоў.

З нататкамі «за жыццё» выступіў Алесь Марціновіч: кур'ёзныя выпадкі на працы, развагі пра істотнае ў гэтым жыцці, партрэты калег і пад. Пры пэўным намаганні гэтую фактуру можна было б ператварыць у сатырычны твор. У пададзеным выглядзе «Былое, але не думы» — збор нататак больш публіцыстычных.

Да тэмы неспакою чалавека, пошукаў істотнага ў жыцці звяртаецца Васіль Гігевіч. У апавяданні «Сон» можна знайсці чароўнае апісанне фотаздымка, трапна прыкмечаныя рысы сярэднестатыстычнага савецкага чалавека, метафарычныя «дыягназы», вынесеныя пісьменнікам гэтаму самаму чалавеку (кшталту «гразі ў маторчыку»). Сэнс жыцця ў разуменні аўтара, як і варта было чакаць, — каханне. Аднак аўтар злоўжывае інверсіяй, якая замест душэўнасці прыўносіць у твор штучную саладжавасць; гэтаксама сустракаюцца неабгрунтаваныя лексічныя паўторы, праз якія твор губляе ў плане выразнасці.

У нумары прадстаўленыя вершы Дар'і Дарошка. Яна смела выказвае ў паэтычных сімвалах сваю асабістую трагедыю, пераствараючы пачуцце ў мастацтва, а не выказваючы яго наўпрост, як памылкова робяць многія пачаткоўцы. Дасканалыя ў гучанні яе вершы «З самага ранку» і асабліва — «Сумуе сцяжынка».

Безумоўная мастацкая ўдача нумара — апавяданне Алеся Ветаха «Праязны білет». На шараговым, пабытавым прыкладзе ён у поўнай глыбіні выказаў вечнае супрацьстаянне: даравацъ — ці асудзіць?.. Кантрастуюць і героі аповеду, муж і жонка, мяккі, велікадушны інтэлігент і імпульсіўная, катэгарычная жанчына. У той жа час можна сказаць інакш: мяккацелы ідэаліст, ва ўседараванні якога хаваецца інфантыльнасць, і справядлівая, моцная жанчына. Неадназначнасць герояў, неадназначнасць учынкаў, ёмістасць невялікага тэксту з мастацкай рэтраспекцыяй (у творы разгортваецца яшчэ адзін твор, ідэйна звязаны з «мацярынскім») — усё тут прамаўляе за літаратуру (а не гульню ў яе).

**Наста ГРЫШЧУК**

# Такі нязвыклы рэалізм




Якая значнасць літаратурных сувязей для грамадства і чытача? Паразважаць над гэтым пытаннем прапануе Алесь Карлюкевіч у другім нумары «Нёмана» ў інтэрв'ю з прафесарам Казбекам Султанавым, загадчыкам аддзела літаратур народаў Расійскай Федэрацыі і Садружнасці Незалежных Дзяржаў Інстытута сусветнай літаратуры Расійскай акадэміі навук. Тэкст прываблівае аб'ектыўнасцю погляду і ўзважанасцю думак. Казбек Султанаў звяртаецца да развіцця літаратурных сувязей на савецкай прасторы і абгрунтоўвае актуальнасць культурнага дыялогу.

Але на якую ролю ў ім рэальна можа разлічваць літаратура? Пераклады і тэматычныя «круглыя сталы» маюць значнасць для вузкага кола інтэлігенцыі, прычым толькі пры ўмове адказнага стаўлення арганізатараў. Значна большую цікавасць выклікалі б фестывалі, майстар-класы, тэатралізаваныя праграмы, на якіх можна атрымаць яркія ўражанні, непасрэдна пазнаёміцца з прадстаўнікамі іншых культур і ў якасці напаміну пра свята набыць буклет з перакладамі вершаў.

Але як зрабіць, каб іншая культура, не вельмі вядомая ў пэўным грамадстве, стала пазнавальнай і прывабнай, каб перакладная кніга зацікавіла некалькі тысяч чытачоў, — адкрытае пытанне, вырашэнне якога патрабуе дэталёва распрацаванай праграмы.

Зрэшты, другі нумар «Нёмана» атрымаўся традыцыйна беларуска-рускім і знаёміць з творчасцю замежных аўтараў толькі ў рубрыках «Сусветная літаратура» і «Сябрына». Маладая расійская проза прадстаўлена апавяданнямі Андрэя Анціпіна, Алены Тулушавай, Андрэя Цімафеева. Побач з беларускімі празаікамі гэтыя аўтары вылучаюцца глыбокай зацікаўленасцю сучасным, рэальным жыццём — псіхалогіяй чалавека, сацыяльнымі і культурнымі праблемамі. Аўтарам цікава распрацоўваць вобразы герояў, канкрэтызаваць прастору дзеяння, апісваць для многіх звыклыя, але па сутнасці адметныя справы — такія, як зімовая рыбалка альбо праца доктара ў радзільні.

Апавяданні маладых пісьменнікаў імпануюць выдатным рэалістычным стылем, але ідэі твораў маглі б быць больш арыгінальнымі. Людзі розных прафесій напрыканцы працоўнага дня часам мараць пра цуды — раптоўнае і шчаслівае вырашэнне праблем, якія маюць этычны аспект. Вядома, цуд будзе мець асаблівую значнасць, калі справа тычыцца лёсу немаўляці — як у апавяданні А. Тулушавай «Цудаў хочацца». Не здзівіць чытача нешчаслівы шлюб дзяўчыны з беднай сям'і, але ў дадатак А. Цімафееў звяртае ўвагу на неабходнасць самапавагі, без якой не даводзіцца разлічваць на душэўную радасць. Герой апавядання А. Анціпіна «Смала» — вясковец з паўночнай Расіі — прадстаўляе той тып сялян, якія перанялі ад старэйшых традыцыйныя погляды і ўменні, прытрымліваюцца адвечнага мясцовага ладу жыцця, але чамусьці так часта просяць «на боярышник»... Праблемы гэтых людзей не вельмі цікавяць грамадства, і ўжо таму вобраз вясковага Пузырка выклікае ўдзячнасць. Твор можна было б скараціць за кошт некалькіх падрабязных апісанняў рыбалкі, але сакрэты гэтага промыслу — соль апавядання.

Аляксандр Сілецкі ў апавяданні «Скарб» распавядае пра дзіўнае захапленне спецыяліста па настройцы лібрапраектараў Люцыя-Проў Гальбовіца. Цікавасць да кнігі ўзнаўляецца ў сітуацыі выключнага дэфіцыту, калі тэксты існуюць у электронным варыянце і амаль не друкуюцца. Нешматлікія папяровыя выданні прываблiваюць калекцыянераў, дый тое сапраўдныя бібліяфілы застаюцца рэдкімі людзьмі. Абмаляванае пісьменнікам жыццё крыху аддаленае ад нас па часе — а пакуль адчуць радасць ад сустрэчы з кнігай можна не толькі ў апавяданні. Галоўнае — выбраць вартага даверу аўтара...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Скарбонка з цікавосткамі

Што сёння патрэбна маладому літаратару, каб выдаць сваю першую кнігу? Грошы, добры выдавец? Аказваецца, дастаткова нажніц, клею і часопіса «Бярозка» — менавіта там распачаўся праект «Аповесць-канструктар». Першай удзельніцай такога незвычайнага праекта стала Аліна Длатоўская. Першая частка яе аповесці «Арнаменты» ўжо выйшла ў студзеньскім нумары «Бярозкі», а пра маладую пісьменніцу, яе першыя крокі ў літаратурным свеце і сам праект «Аповесць-канструктар» можна прачытаць у лютаўскім нумары часопіса «Маладосць».

Але гэта далёка не ўсе цікавосткі. Вось, напрыклад, у рубрыцы «Выбітныя» Маргарыта Дзяхцяр распавядае пра «Скарбніцу» на вуліцы Кісялёва ў Мінску. Там працуюць людзі, якія нясуць беларускую культуру ў народ. Яны ткуць ручнікі, робяць узоры на вопратцы, паўтараюць даўнейшы беларускі арнамент. Але, нягледзячы на тое, што цяпер вышыванкі сталі папулярнымі, людзі не цікавяцца тымі, хто адраджае амаль забытую беларускую культуру. Дый самі героі сённяшняга «Адраджэння» жадаюць заставацца інкогніта — у матэрыяле няма фота майстрыхі, мы не даведаемся нават прозвішча, толькі імя — Наталля. Затое дазнаёмся пра векавыя традыцыі беларускай вышыванкі. Ці гэтага мала?




Для аматараў малой прозы ў другім нумары «Маладосці» таксама знойдзецца падарунак — асабістыя зацемкі-штрыхі Яўгена Мартыновіча. Тут і пра Моцарта з Сальеры, і пра Вудзі Алена, і пра Андрэя Белага, і пра Вячаслава Адамчыка… Карацей, прасцей пералічыць, пра каго Яўген Мартыновіч не напісаў. Кароценькія нататкі простыя па форме, але глыбокія па змесце. Часам іранічна-жартаўлівыя, ёсць і сумна-саркастычныя, нават рэфлексійна-філасофскія. Адным словам, на любы густ.

Што да дэбютантаў часопіса, то нельга абысці ўвагай вершы Дзяніса Шпіронка. Хаця найперш хочацца адзначыць цікавую асобу самога паэта: з вучобай у ВНУ "не сышліся характарамі", таму адукацыю атрымліваў у бібліятэцы, пасля тэрміновай службы ў войску працуе там, дзе больш падабаецца і куды больш схіляецца душа. Кім толькі не быў: і грузчыкам, і прыбіральшчыкам, і афіцыянтам, і ахоўнікам… А ў перапынках гэтай бурлівай дзейнасці крыху піша, крыху малюе і зусім крышачку падарожнічае. Што да вершаў, то яны выдатна адлюстроўваюць характар Дзяніса: задзірлівыя, смелыя, хуліганскія. Вельмі характэрныя для сучасных маладых літаратараў, якія не баяцца эксперыментаў.

А вось маладая дзявочая проза — як мае быць: пра каханне. Анастасія Падрабінкіна, юная літаратарка з Магілёва, сваё апавяданне «Пра каханне» напісала для ўдзелу ў гарадскім конкурсе маладых пісьменнікаў, які праводзіцца летась. У выніку стала лаўрэаткай конкурсу і дэбютуе ў «Маладосці». Тэкст Анастасіі вельмі рамантычны, шчыры, па-юнацку наіўны і неверагодна прыгожы. А якія яшчэ творы пісаць у 16 гадоў? Шарму і без таго вытанчанаму апавяданню дадалі гравюры Маргарыты Дабравольскай.

Не адными дэбютамі парадаваў лютаўскі нумар «Маладосці». Цвіком нумара стала нізка вершаў Таццяны Сівец. Вось дзе павучыцца пачаткоўцам удалым вобразам і трапным выразам, лёгкасці, мілагучнасці і характву! Прыгажосць і глыбокі сэнс, тонкая драматургія без лішняга пафасу — усё гэта пра паэзію Таццяны Сівец.

Для тых, хто засумаваў па дэтэктыўных гісторыях, — аповесць Уладзіміра Мажылоўскага «Цені крыжа». А на салодкае — міфалагічная фантазія Чарльза дэ Лінта «У гушчарах майго сэрца» ў перакладзе Ганны Бучко, творы маладых паэтаў Арменіі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# У сатырычны паход да Крапівы

**«Прайшлі Вы шмат цяжкіх дарог, / За дзесяцёр папрацавалі, / Заўсёды вострае пяро, / Як зброю, у руках трымалі…»; «Гарлахвацкія дрыжаць, / Зёлкіны не рады. / Вы знайшлі, як адабраць / Іхнія мандаты. / У страі заўсёды Вы, / Гэта кожны знае, — / У Кандрата Крапівы пораху хапае…» — цэлае суквецце віншаванняў дорыць Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук народнаму пісьменніку Беларусі Кандрату Крапіве да 120-годдзя з дня яго нараджэння. Сяброўскія шаржы, фотаздымкі, вершы-прысвячэнні і шмат унікальнага з друкаванай спадчыны пісьменніка дэманстравалася падчас імпрэзы «Дык хто смяецца апошнім?», куды былі запрошаны вучні 10-х класаў СШ № 26 Мінска. Ганаровым госцем стаў пісьменнік Мікола Чарняўскі.**



*Фота Вольгі Панасінай.*

*Пісьменнік Мікола Чарняўскі з вучнямі сярэдняй школы № 26 Мінска.*

Сустрэча менавіта ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН невыпадковая: амаль паўстагоддзя назад Крапіва браў удзел у адкрыцці будынка гэтай бібліятэкі.

Кандрат Крапіва быў акадэмікам Нацыянальнай акадэміі навук, а таксама займаў пасаду віцэ-прэзідэнта НАН. У фондах бібліятэкі захоўваецца вялікая колькасць асабістых архіваў пісьменніка. На выстаўцы можна было ўбачыць віншаванні ад вядомых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх Я. Колас, М.Танк. Незлічонае багацце аўтографаў — як цікава іх разглядаць! Тут і шчырыя вітанні розных часоў супрацоўнікаў газеты «ЛіМ», часопісаў «Вожык», «Маладосць», «Бярозка». «Робяць сэрцы бадзёрымі яго смех, яго словы / Сябраваць з яго творамі заўсёды гатовы» (Бярозкаўцы, сак.1986); Побач — выстаўка кніжных выданняў пісьменніка, па якой можна прайсці аж сямідзесяцігадовы (!) творчы шлях класіка: ад самых першых зборнікаў «Вершы» (1925), «Асцё» (1925), «Апавяданні» (1926), «Байкі» (1927) да сучасных перавыданняў і збораў твораў.



Нашаму Крапіве

Прайшлі Вы шмат цяжкіх дарог,
За дзесяцёх папрацавалі,
Заўсёды вострае пяро,
Як зброю, у руках трымалі.

Мы вельмі рады зноў і зноў
Са словам Вашым сустракацца…
Жадаем жыць за сто гадоў,
Пісаць, смяяцца і… спрыкацца!

ЛіМаўцы

*Віншаванне Кандрату Крапіве ад «ЛіМа».*

Загадчыца аддзела абслугоўвання Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Ніна Камарова расставіла акцэнты:

— Да творчасці Крапівы звяртаецца кожнае пакаленне. Жанр, які ён абраў, — гаварыць прама ў вочы непрыемныя рэчы — патрабуе вялікага таленту: каб сказанае не было падобна на абразу, здзек, але каб чалавек захацеў змяніцца.

Пачынаў творца з лірычных вершаў. Адзін рызыкнуў даслаць у часопіс «Жизнь для всех». Не надрукавалі: у адказе паведамілі, што верш недастаткова мастацкі.

Па-сапраўднаму літаратурнай працай заняўся ў 1921 годзе ў… Чырвонай Арміі. У 1922-м надрукаваны яго фельетон на рускай мове «Жили-были» ў «Красноармейской правде». Хутка пачаў пісаць па-беларуску. Першыя кнігі К. Крапівы выйшлі ў 1925 г.: «Вершы», «Асцё», «Крапіва».

Зборнік «Крапіва» адкрываецца арыгінальным вершам «Не цягнусь за Чаротам», дзе сатырык самакрытычна сябе прадстаўляе:

*Я ў мастацкім агародзе*
*Толькі марная трава.*
*А якая? — смех, дый годзе:*
*Я — пякучка-крапіва.*

Як тут не заўважыць устаноўку на сатыру, якая стане галоўным жанрам?

З кніжнай экспазіцыі кідаецца ў вочы Біблія (кніга быцця) 1926 года пад аўтарствам Крапівы. Спачатку здзіўляе, але, адгарнуўшы, разумееш: вольны пераклад. Дарэчы, гэты асобнік унікальны: на тытульніку — аўтограф К. Крапівы: «Сябру майму Уладзіміру Дубоўку на ўспамін аб падзеях. 1/IV. 26 г.»

У 30-я гады К. Крапіва паспрабаваў сябе ў жанры паэмы (казка «Хвядос — чырвоны нос», 1931). З гэтага перыяду прадстаўлены ў экспазіцыі «Ухабы на дарозе» (1930), «Калючы строй» (1932). Падкупляе вынаходлівасць пісьменніка, багацце прыёмаў і сродкаў сатыры. Часта абапіраўся на прыказку. Бывала, з яе вырастала байка. Асабліва вызначаюцца ў многіх байках Крапівы канцоўкі («Другі баран — ні «бэ», ні «мя», а любіць гучнае імя» («Дыпламаваны баран»)). Байка заўсёды стаяла блізка да жывой народнай мовы, чэрпала адтуль лексічныя багацці.

З малых сатырычных форм вылучаецца чатырохрадковая эпіграма «Інтэрв'ю Якуба Коласа», напісаная ў сувязі з паездкай народнага паэта за мяжу — на Парыжскі сусветны кангрэс абароны культуры (1935). Якубу Коласу эпіграма спадабалася. Народны паэт нават напісаў спецыяльны верш-адказ «Загібелька» і выкарыстаў крапівінскую канцоўку «Мне Загібелька лепш Парыжа».

Крапіва дасціпна і з'едліва выкрываў адмоўнае: у поле зроку сатырыка трапляла гультайства, пляткарства, брыдкаслоўе, п'янства. Крытыкаваў старое, аджылае, высмейваў заганныя рысы і якасці.

Далей па храналогіі ў экспазіцыі — раман «Мядзведзічы» (1932), «Партызаны» (1938), «П'есы» (1946), «Смех і гнеў» (1946), п'еса «Пяюць жаваранкі» (1951), п'еса «Зацікаўленая асоба» (1953), «Жаба ў каляіне» (байкі і фельетоны), 1957. Прадстаўлены таксама пераклады Крапівы з англійскай мовы У. Шэкспіра «Рамэа і Джульеты», твораў А. Чэхава, А. Твардоўскага, Т. Шаўчэнкі і інш.



КАНДРАТУ КРАПІВЕ

ЦЯБЕ ВІТАЕМ МЫ ПА-БРАЦКУ:
РАСЦІ ВЫШЭЙ, ІДЗІ ДАЛЕЙ!
І ТОЛЬКІ ПЛЕМЯ ГАРЛАХВАЦКІХ
ТВОЙ НЕ АДЗНАЧЫЦЬ ЮБІЛЕЙ.

А ТЫ І РАД: ІХ БІЎ НЯМАЛА
І БУДЗЕШ БІЦЬ НЯСТОМНА, КАБ
НА БЕЛЫМ СВЕЦЕ МЕНЕЙ СТАЛА
МАХАЛЬНІКАЎ, АСЛОЎ І ЖАБ.

НАРОД З ТВАІМ ЗДРУЖЫЎСЯ СМЕХАМ
І ПРАЎДУ ПАЛЮБІЎ ТВАЮ.
І СЁННЯ Ў ГОНАР ТВОЙ НАД СНЕГАМ
УСЮДЫ ЖАЎРАНКІ ПЯЮЦЬ.

ВІНШУЮЧЫ З ПАЧЭСНАЙ ДАТАЙ
ЦЯБЕ І ЧЫТАЧОЎ ТВАІХ,
ГАТОЎ ДАЦЬ «ВОЖЫК» КАНДЫДАТАЎ
ДЛЯ НОВЫХ П'ЕС, ДЛЯ НОВЫХ КНІГ.

*Віншаванне ад часопіса «Вожык» З асабістага архіва Кандрата Крапівы.*

Вядома, што Крапіва шмат і плённа працаваў у ваенныя гады. Дарэчы, Вялікая Айчынная для К. Крапівы сталася пятай вайной: у 1915 годзе служыў падчас імперыялістычнай, потым — грамадзянская. Удзельнічаў у вызваленчым паходзе ў Заходнюю Беларусь. Неўзабаве савецка-фінская вайна, і ён там… 17 ліпеня 1941 г. у газеце «Савецкая Беларусь» з'явіўся сатырычны верш «Лісі хвост і воўчы клык». Вясною 1943 г. К. Крапіва прызначаецца рэдактарам сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Пазней, у 1961 г., Крапіва адзначыць: «Усе сорак гадоў маёй літаратурнай працы ў той ці іншай ступені былі звязаны з газетнай паласой… Доўга я супрацоўнічаў у «Беларускай вёсцы» і іншых газетах рэспублікі… Удзел у газеце яшчэ больш набліжае пісьменніка да хвалюючых, баявых тэм сучаснасці».

Падзяліўся ўспамінамі пра К. Крапіву падчас імпрэзы Мікола Чарняўскі:

— З творчасцю Крапівы пазнаёміўся яшчэ ў школьныя гады: вельмі ўразіў нарыс «Партызан Міша Сільніцкі» пра нашага Героя Савецкага Саюза Міхаіла Сільніцкага. Руска-беларускі, беларуска-рускі, тлумачальны слоўнікі выходзілі пад рэдакцыяй Кандрата Крапівы. Ён быў вельмі скрупулёзны, патрабавальны. Я тады працаваў у часопісе «Бярозка», рэдактарам якога быў празаік Вячаслаў Адамчык. Помню, заходжу да Кандрата Кандратавіча ў Акадэмію навук: вялізны стол… і агромністымі стопкамі ляжаць карэктуры, а наверсе — вялікая лупа.

Пісьменнік узгадаў, як давялося рыхтаваць у нумар «Бярозкі» «Загадкі-амонімы дзеда Кандрата». Надрукавалі, а пасля яны выйшлі ў выдавецтве «Юнацтва» як «Загадкі дзеда Кандрата» з малюнкамі Анатоля Александровіча.

У 1946 годзе ў складзе дэлегацыі БССР Кандрат Крапіва ўдзельнічаў у рабоце І сесіі Генеральнай асамблеі ААН у Лондане. Бібліятэкары прадставілі фільм, аздоблены ўспамінамі Крапівы пра наведванне Лондана. Для гледачоў гэта стала своеасаблівым экскурсам у былыя часы і іншую краіну.

Паглядзелі і мультфільм, зняты на байку «Дыпламаваны баран».

На завяршэнне — інтэлектуальныя гульні. Вучні падзяліліся на дзве каманды. Кожнай журы налічвала балы. У конкурсе «Расшыфруй» разгадвалі прыказкі. Дадумвалі байкі: уводзілі герояў. Ладзілі інсцэніроўку «Літаратурныя чытанні» і нават рабілі спробы тэксталагічных даследаванняў.

«І ідзіце з году ў год / Слаўнымі шляхамі / У сатырычны свой паход! Ну, а мы — за Вамі».

**Наталля СВЯТЛОВА**

**Шэраг матэрыялаў, прысвечаных Кандрату Крапіве, чытайце ў наступным нумары.**

# Радзівілы: асобы ў гісторыі

**Імша ў памяць аб Мікалаю Крыштафу Радзівілу Сіротку, сустрэча навукоўцаў і калег, прэзентацыі новых выданняў, прадстаўленне вернутага на радзіму паўдаспеха са знакамітай калекцыі і падарункі ад саміх князёў Радзівілаў… У Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж» прайшлі мерапрыемствы, прысвечаныя 400-годдзю з дня смерці Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі.**



*Падарунак музею ад Радзівілаў — копія партрэта Міхала Казіміра Радзівіла.*

## ПАМЯЦІ СІРОТКІ

Гэты палітычны дзеяч, падарожнік, будаўнік горада адыграў важную ролю ў гісторыі Нясвіжа і Нясвіжскага замка. Ён пакінуў вельмі вялікую спадчыну, фактычна заклаў фундамент еўрапейскай гісторыі нашых земляў. Па яго хадайніцтве кароль польскі і вялікі князь літоўскі Стэфан Баторый надаў Нясвіжу Магдэбургскае права. Ён фундаваў будаўніцтва храмаў, палаца, гарадской ратушы, прыклаў шмат намаганняў дзеля ўзбагачэння палацавай бібліятэкі…

Сімвалічна, што імшу ў нясвіжскім касцёле Божага Цела ў памяць пра Мікалая Крыштафа Радзівіла правёў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч разам з настаяцелямі храмаў, пабудаваных Сіроткам, — з вёсак Дзераўное, Чарнаўцы, Новы Свержань, пасёлка Мір.

Пра Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіротку можна распавядаць ледзь не бясконца. Таму і мерапрыемствы з нагоды 400-годдзя з дня яго смерці сталі не толькі данінай памяці выдатнаму палітыку і дзеячу культуры, але і заклалі падмурак для новых праектаў, далі магчымасць прэзентаваць вынікі даследаванняў.

Падчас урачыстых мерапрыемстваў дырэктар музея-запаведніка «Нясвіж» Сяргей Клімаў і дырэктар Прэзідэнцкай бібліятэкі Беларусі Сяргей Квачан падпісалі дамову аб супрацоўніцтве паміж гэтымі ўстановамі. У падарунак ад бібліятэкі музей атрымаў алічбаваныя копіі выданняў з радзівілаўскага кнігазбору, якія захоўваюцца ў Прэзідэнцкай бібліятэцы. Паўнатэкставая база дадзеных на шасці кампактдысках (ёю ўжо могуць карыстацца чытачы бібліятэкі) будзе захоўвацца і ў Нясвіжскім замку.

## ЧОРНАМУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Падчас сустрэчы навукоўцаў і калег у Нясвіжы адбылася прэзентацыя новага зборніка навуковых работ «Мікалай Радзівіл Чорны: палітык, дыпламат, мецэнат», якая пабачыла свет сёлета ў выдавецтве музея-запаведніка «Нясвіж». Кнігу склалі напрацоўкі даследчыкаў, прадстаўленыя летась падчас навуковай канферэнцыі да 500-годдзя з дня нараджэння бацькі Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі — Мікалая Радзівіла Чорнага. Больш як паўтара дзясяткі артыкулаў, што ўвайшлі ў зборнік, распавядаюць пра розныя аспекты працы выдатнага палітыка і мецэната.

Прадстаўляючы кнігу, намеснік дырэктара па навуковай рабоце музея-запаведніка «Нясвіж» Зміцер Яцкевіч падкрэсліў:

— Дзякуючы такім сустрэчам становіцца зразумелым, што многія даследчыкі з Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы, Польшчы займаюцца вывучэннем гісторыі роду Радзівілаў і той эпохі, бачыцца і плён іх працы. Асоба, якой мы прысвяцілі канферэнцыю і новае выданне, — першы з Радзівілаў, хто нарадзіўся ў Нясвіжы і шмат зрабіў для развіцця краю. Нельга забываць, што менавіта ён ініцыяваў і фундаваў выхад першай друкаванай кнігі на тэрыторыі Беларусі — Берасцейскай Бібліі. Першае друкаванае выданне на беларускай мове — «Катэхізіс» Сымона Будната, — што выйшла ў Нясвіжы, таксама пабачыла свет дзякуючы яму.

Вядомая даследчыца гісторыі роду Радзівілаў, доктар мастацтвазнаўства Вольга Бажэнава звярнула ўвагу на тое, што новы



*Прафесар Юрый Бохан распавядае пра гісторыю і канструкцыйныя адметнасці радзівілаўскага паўдаспеха XVI ст.*

зборнік «Мікалай Радзівіл Чорны: палітык, дыпламат, мецэнат» паказвае ролю асобы ў гісторыі, даказвае, што нельга разглядаць Радзівілаў у цэлым, — кожны з прадстаўнікоў гэтага выдатнага роду непаўторны. Кожны прайшоў складаны жыццёвы шлях. Нават Мікалай Радзівіл Чорны перад смерцю — адзін чалавек, у гады росквіту кар'еры — зусім іншы.

## ТРЫ МІКАЛАІ…

400-годдзе з дня смерці Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі стала добрай нагодай для візіту нашчадкаў гэтага выдатнага роду, якія сёння жывуць у Варшаве. Князь Мацей Радзівіл распавёў:

— У гісторыі нашай сям'і — тры надзвычай важныя асобы з іменем Мікалай. Мікалай Радзівіл Руды прадстаўляе ваенную традыцыю, Мікалай Радзівіл Чорны — палітычную. Палітыка і вайна, напэўна, два бакі аднаго медалю, але найважнейшай справай Радзівілаў было захаванне міру. Думаецца, менавіта Мікалай Радзівіл Сіротка распачаў яшчэ адну важную сямейную традыцыю — сыходзіць з палітыкі, ад вайны, аддаваць перавагу больш цікавым справам. Натуральна, здараюцца моманты, калі ад палітыкі проста нельга ўцячы, нават сёння наша сям'я ўдзельнічае ў палітычным жыцці сучаснай Польшчы.

Падарункамі ад Радзівілаў для музея ў Нясвіжы сталі новая версія генеалагічнага дрэва Радзівілаў, копія досыць незвычайнага і крыху нечаканага партрэта Міхала Казіміра Радзівіла (арыгінал знаходзіцца ў музеі ў Ліверпулі), а таксама адно з першых выданняў карты ВКЛ XVII ст., зробленай па замове Мікалая Радзівіла Сіроткі.

## … І ТРЫ НЕВЯДОМЫЯ ЛІСТЫ

Была прэзентаваная яшчэ адна важная навуковая работа. Гэта кніга вядомага польскага навукоўцы, прафесара Томаша Кэмпы «Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, віленскі ваявода», яна пабачыла свет у выдавецтве Замкавага комплексу «Мір» у перакладзе на беларускую мову. Упершыню гэтая праца, што ўжо паспела стаць настольнай кнігай для многіх айчынных даследчыкаў, якія вывучаюць гісторыю роду Радзівілаў, пабачыла свет у Варшаве ў 2000 годзе. Але з таго часу ў навуковым свеце шмат змянілася. Таму беларускае выданне — не проста пераклад польскага тэксту, але, па сутнасці, новая работа.

Так, для гэтай кнігі сам прафесар Кэмпа напісаў яшчэ адну главу, дапрацаваў першапачатковы тэкст і разгледзеў некаторыя новыя крыніцы. У якасці навуковага рэдактара перакладу выступіў вядомы айчынны геральдыст, кандыдат гістарычных навук Аляксей Шаланда. Каб зрабіць выданне цікавым для больш шырокага кола чытачоў, ён падабраў ілюстрацыйны матэрыял. Ёсць тут і каментары беларускай даследчыцы гісторыі роду Радзівілаў Анастасіі Скеп'ян.

Больш за тое, новае выданне змяшчае і тры раней невядомыя лісты Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі. Як распавяла дырэктар Замкавага комплексу «Мір» Вольга Папко, гэтыя ўнікальныя дакументы захоўваюцца ў Музеі Беларускага Палесся ў Пінску. Яны ў 1950-я гады выпадкова трапілі ў зборы ўстановы і да часу публікацыі кнігі не былі ўведзеныя ў шырокі навуковы ўжытак.

Адметна, што гэтае выданне было прадстаўленае сёлета і падчас кніжнай выстаўкі-кірмашу ў Вільнюсе.

## З РАДЗІВІЛАЎСКАЙ КАЛЕКЦЫІ

Значнай падзеяй стала прадстаўленне ўнікальнага паўдаспеха XVI ст. Гэта першы прадмет з багатага радзівілаўскага збору даспехаў і зброі, што вярнуўся ў сцены Нясвіжскага замка за апошнія 90 гадоў. Сяргей Егарэйчанка, намеснік дырэктара музея-запаведніка «Нясвіж», распавёў:

— Калекцыя даспехаў і зброі Радзівілаў — адзін з самых буйных збораў ва Усходняй Еўропе. Яна налічвала сотні, калі не тысячы ўнікальных экспанатаў. На жаль, з такога надзвычайнага багацця на тэрыторыі нашай краіны не засталося амаль нічога. Гэтыя прадметы знаходзяцца ў музеях і прыватных калекцыях па ўсім свеце. Так сталася, што большая частка радзівілаўскіх збораў была распрададзена на аўкцыёнах *Christie's* у 1926 і 27 гадах, а таксама аўкцыёне, арганізаваным Амерыканскай асацыяцыяй мастацтваў у Нью-Ёрку ў 1928 годзе. Тады было прададзена больш як 230 прадметаў, яны трапілі ў музеі ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі.

Паўдаспех часоў Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, які нарэшце вярнуўся на радзіму, быў прададзены на аўкцыёне 1926 года. Тады ён трапіў у прыватны збор амерыканскага калекцыянера Джона Хігінса і знаходзіўся ў горадзе Вустэр, штат Масачусетс. Некалькі гадоў таму апякунскі савет калекцыі прыняў рашэнне распрадаць частку прадметаў: неабходныя былі грошы для стварэння новай экспазіцыі. На шчасце, у распродаж трапіў і радзівілаўскі паўдаспех.

Даспех часоў Мікалая Радзівіла Сіроткі, вернуты на радзіму, — не парадны, а менавіта баявы. Доктар гістарычных навук, адзін з найлепшых знаўцаў гісторыі вайсковай справы ў нашай краіне Юрый Бохан патлумачыў:

— Па меры распаўсюджання войскаў, якія складаліся не толькі з рыцарства, але і людзей больш простых, узнікла неабходнасць у стварэнні дастаткова лёгкага шарагавага даспеху. У выніку пошукаў у асяроддзі ландскнехтаў — наёмных пехацінцаў — узнік даспех, канструкцыйна сфарміраваны так, каб максімальна спрасціць карыстанне ім падчас бітвы. Складаўся з кірасы, наспінніка, лёгкага шлема. Важным складнікам з'яўлялася кіраса з характэрным выступам у пярэдняй частцы, які дазваляў адбіваць зброю праціўніка. Ёсць таксама меркаванне, што за выступам магла размяшчацца спецыяльная падушачка, набітая воўнай. Куля, якая прабівала кірасу, заблытвалася ў ёй. Цікавая і плечавая частка даспеха, сканструяваная такім чынам, каб аблегчыць працэс апранання.

У XVI стагоддзі Нясвіж быў адным з найважнейшых асяродкаў, якія ў той час вызначалі асноўныя трэнды ва ўзбраенні. Бадай, самым вядомым! Каштоўнасць радзівілаўскай калекцыі яшчэ і ў тым, што тут захоўвалася ўзбраенне не набытае, а мясцовае, звязанае з гісторыяй народа. Таму надзвычай важна не толькі вяртаць на радзіму прадметы з гэтых збораў, але і знаёміцца з імі, вывучаць хаця б па публікацыях. З гэтай мэтай у гісторыка-культурным музеі-запаведніку «Нясвіж» распрацоўваецца ідэя адмысловай выдавецкай серыі «Калекцыя Радзівілаў». І задума для першага выдання ўжо ёсць: выяўлена каля 120 прадметаў з радзівілаўскіх збораў даспехаў і ўзбраення, што сёння знаходзяцца ў розных музеях свету. Вядзецца праца па прадстаўленні іх на старонках адмысловага альбома-каталога.

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота аўтара**

# Цяжкасці перакладу

## Сучасная мастацкая літаратура Еўропы ў перакладзе на беларускую мову

**Томаш Самойлік «Бортнік Ігнат і скарб пушчы» (пераклад з польскай Вольгі Гуд)**




Томаш Самойлік — навуковец, супрацоўнік Інстытута даследавання Польскай акадэміі навук у Белавежы, прафесійна займаецца вывучэннем натуральнай гісторыі Белавежскай пушчы. Акрамя таго, піша кнігі для дарослых і дзяцей, а таксама стварае коміксы, за што атрымаў шэраг узнагарод і прэмій. Па словах самога Томаша, з самага дзяцінства хацеў пісаць коміксы, але яго ўпэўнілі, што гэта не самы лепшы выбар, і ён стаў навукоўцам. Аднак калі нарадзілася дачка, а пазней і сын, узнікла праблема, звязаная з адсутнасцю добрых, цікавых кніг для дзяцей. І тады ён вырашыў паспрабаваць запоўніць гэтую нішу. Так пачалі з'яўляцца яго кнігі: навуковыя веды Томаш перадае дзецям у вельмі даступнай і цікавай форме.

Комікс Томага Самойліка «Бортнік Ігнат і скарб пушчы» распавядае пра Трэці падзел Рэчы Паспалітай. Разам са знікненнем дзяржавы пад пагрозай аказаліся пушчы, у тым ліку Белавежская. Герой комікса, бортнік Ігнат, жыве ў старой частцы пушчы і займаецца дзікімі пчоламі. Даведаўшыся пра запланаваную вырубку і знішчэнне пушчы, Ігнат уступае ў змаганне за свой дом. Авантурная фабула комікса спалучае гістарычныя элементы з выдуманымі. Комікс напісаны простай моваю. Насычаны гумарам, аздоблены яркімі ілюстрацыямі і каларытнымі персанажамі. А тая акалічнасць, што дзеянне разгортваецца на тэрыторыях сучасных Польшчы, Беларусі, Літвы, і Украіны, робіць яго прывабным не толькі для польскіх чытачоў і не толькі для дзяцей.

**Ірэна Брэжна «Найлепшы з усіх светаў» (пераклад з нямецкай Лізаветы Касмач)**

Ірэна Брэжна нарадзілася ў 1950 годзе ў Браціславе, у 1968-м разам з бацькамі выехала ў Швейцарыю. Вывучала славістыку, філасофію і псіхалогію ў Базельскім універсітэце. Аўтар шматлікіх рэпартажаў для швейцарскіх, нямецкіх і славацкіх друкаваных СМІ і тэлебачання. Ірэна Брэжна актыўна ўдзельнічае ў працы праваабарончых і дабрачынных арганізацый у розных краінах свету.




«Найлепшы з усіх светаў» — першы раман Ірэны Брэжны, поўны аўтабіяграфічных матываў. Твор расказвае штодзённыя рэаліі жыцця колішняй Чэхаславакіі праз прызму бачання маленькай яшчэ дзяўчынкі. «У галаве я нават пабудавала мур: з правага боку жывуць сямейныя словы, а з левага — школьныя. Ёсць два светы і дзве мовы, і дзень пры дні я пераходжу з боку на бок, як двайны агент», — кажа гераіня.

Неадназначнасць свету будуе непрабівальныя сцены ў яе свядомасці: усё дзеліцца на публічнае і сямейнае, сямейнае і асабістае, палітычнае і прыватнае. Ірэна Брэжна расказвае пра жыццё ў цэнтральнаеўрапейскім мястэчку ў 1950-я гады. Гераічны міф сацыялізму прыцягвае гераіню рамана, дзяўчынку школьнага веку, больш за бабулін каталіцызм альбо дробнабуржуазны свет бацькі, якога накіравалі на перавыхаванне — будаваць масты. Аўтарка дазваляе адчуць грамадскую атмасферу «шчаслівай дыктатуры пралетарыяту», якой больш не існуе.

**Іржы Гайчак «Рыбіна кроў» (пераклад з чэшскай Святланы Рогач)**




Калі ў 1986 годзе на чацвёртым энергаблоку атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі прагрымеў выбух, у тагачаснай Чэхаславакіі ішло будаўніцтва найбуйнейшай АЭС Тэмелін. «Рыбіна Кроў» — гэта гісторыя разбурэння сям'і ў перыяд вялікіх сацыялістычных перамен канца XX стагоддзя, а таксама гісторыя разбурэння вёскі, якая стала ахвярай будаўніцтва атамнай станцыі. У 2013 годзе раман атрымаў прэстыжную чэшскую прэмію *Magnesia Litera* як лепшая кніга папярэдняга года.

«Калі чытаеш арыгінал, разумееш, што адбывалася ў Чэхіі падчас будаўніцтва АЭС і пасля, а таксама з чым сутыкнуліся ў гэты перыяд мясцовыя жыхары.

Тым не менш, кажучы пра свой раман, аўтар падкрэслівае, што яго кніга не пра будаўніцтва Тэмеліна, а пра лёсы людзей, чые вёскі былі знішчаныя з-за атамнай станцыі.

Тэрыторыя АЭС разглядалася як ахоўная зона, таму паблізу яе не павінна было быць ніякіх населеных пунктаў. Людзям прапанавалі пакінуць іх вёскі. Многія не хацелі — выводзілі сілком. На месцы некаторых населеных пунктаў, у сярэднім цячэнні ракі Влтавы, зрабілі вадасховішча. Калі рака выйшла з берагоў, ад былых паселішчаў не засталося і следу… Падзеі адбываліся ў сярэдзіне 80-х гадоў, апошнія вёскі былі разбураны ў сярэдзіне 90-х… Некаторыя гісторыі, якія апісаны ў кнізе, Іржы Гайчак пачуў ад саміх людзей, якія там жылі. Акрамя таго, шмат працаваў з дакументамі, чытаў дакументальную літаратуру на гэтую тэму, што і паслужыла асновай сюжэта рамана.

**Катэржына Тучкава «Жыткаўскія багіні» (пераклад з чэшскай Святланы Рогач)**




Высока сярод карпацкіх грудоў здаўна жылі жанчыны, адораныя надзвычайнымі здольнасцямі. Яны ўмелі лячыць, дапамагалі парадамі ў душэўных пакутах, умелі прадказваць будучыню. Іх называлі багінямі, сваё мастацтва яны перадавалі з пакалення ў пакаленне. Дора Ідэсава — апошняя з іх роду. Аднак майстэрства не пераняла, вывучылася на этнографа і вырашыла напісаць навуковае даследаванне. У канцы 90-х гадоў у архіве МУС яна адшукае тэчкі, сабраныя дзяржбяспекай на ворага народа, яе цётку Сурмэну…

Раман «Жыткаўскія багіні» пра шаптух і прарочыц, якія жылі высока ў карпацкіх горах, стаў самым прадаваным у Чэхіі за апошнія дзесяцігоддзі. Цяпер яго можна прачытаць і па-беларуску. У аснове кнігі — рэальная гісторыя вясковых жанчын з Белых Карпатаў, якіх называлі багінямі за здольнасць лекаваць і прываражваць. Дар перадаваўся ад маці да дачкі. Багінь праследавалі тагачасныя ўлады, адную нават змясцілі ў псіхіятрычную лякарню. Іх дзейнасць вывучалі і нацысцкія даследнікі. Пісьменніца некалькі гадоў збірала сведчанні ў архівах, але атрымалася не этнаграфічная праца, а захапляльная проза, дзе ёсць і дэтэктыўная, і любоўная лініі. Раман атрымліваў прэстыжныя прэміі, у Чэхіі прадалося 100 тысяч кніг.

У кнізе перакрыжоўваюцца два ўзроўні: гістарычны (уласна гісторыі багінь) і эзатэрычны. У славянскіх краінах чытачоў зацікавіла перадусім эзатэрыка, таксама як і лінія пра пераслед уладаў. Хоць кніга была напісаная на падставе лёсаў рэальных жыткаўскіх жанчын, не ўсё ў ёй адпавядае рэчаіснасці. З павагі да гэтых жанчын, а перадусім да іх сем'яў, якія дагэтуль жывуць на Жыткавай, у Старым Грозэнкаве і Дрыетаме, Катэржына Тучкава вырашыла выкарыстаць сапраўдныя імёны толькі ў некаторых выпадках. Многія лёсы ці эпізадычныя здарэнні былі прыпісаныя іншым багіням, некаторыя з іх фіктыўныя. Дакументы, ужытыя ў кнізе, былі выдуманыя, але крыніцай для іх паслужылі сапраўдныя матэрыялы, падобных можна знайсці шмат у чэшскіх і славацкіх архівах.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Беларуска Таццяна Ларына

**Аляксандр Пушкін стаўся адным з улюбёных аўтараў не ў аднаго беларускага пісьменніка, асабліва калі казаць пра тых, чыё дзяцінства прыйшлося на паваенны ці ваенны час. Ва ўспамінах лёгка можна знайсці згадкі пра томік рускага паэта, прынесены ад суседзяў ці з бібліятэкі, чытаны пры цьмяным святле. Але ў беларускай літаратуры ён з'явіўся яшчэ раней. І тут размова не столькі пра пераклады яго твораў на нашую мову, колькі пра літаральную прысутнасць: рускі паэт стаўся адным з герояў паэмы «Тарас на Парнасе», напісанай, нагадаем, у 1855 годзе.**

Што да перакладаў, першым па-беларуску загучала «Рэха» А. Пушкіна — дзякуючы паэту і фалькларысту Адаму Гурыновічу; адбылося гэта ў 1890-х гадах.

Увогуле, новыя пераклады з А. Пушкіна, пачынаючы з 1935 года, пачалі з'яўляцца ў Беларусі надзвычай актыўна. У 1936-м, прыкладам, выйшла кніга выбранай прозы, друкаваліся пераклады асобных вершаў, а галоўнае — беларусы займелі «свой варыянт» рамана ў вершах «Яўгеній Анегін». Тут першаадкрывальнікам стаў Алесь Дудар, для якога зварот да паэзіі А. Пушкіна быў не ў навіну. Цікава, што асобна 1 глава «Яўгенія Анегіна» друкавалася ў «ЛіМе».

Поўны пераклад быў змешчаны ў часопісе «Полымя рэвалюцыі». У ім жа ў 1939 годзе друкаваліся часткі куляшоўскага перакладу «Яўгенія Анегіна». Падчас Вялікай Айчыннай вайны рукапіс з перакладам быў незваротна згублены, і толькі праз дзесяць гадоў пасля першай публікацыі «свайго» «Яўгенія Анегіна» Аркадзь Куляшоў цалкам аднавіў пераклад, друкуючы да таго паасобныя ўрыўкі ў «ЛіМе», «Настаўніцкай газеце» і іншых выданнях.

Словам, абсалютна справядліва, што яшчэ адзін пераклад «Яўгенія Анегіна», дакладней, частка яго (пачатак 5 главы), з'явіўся менавіта ў «Полымі». Лютаўскі нумар, рубрыка «Спадчына», аўтар перакладу — паэтэса Валянціна Аколава. З прадмовай да публікацыі выступіла кампазітар, сябра паэтэсы Валянціна Сярых.

«Аднойчы яна падзялілася тым, што завяршыла доўгую працу над перакладам "Яўгенія Анегіна" на беларускую мову.

— Навошта гэта?.. — тады здзівілася я. — Пушкіна перакладаць наогул цяжка, ды і ёсць ужо пераклад паэмы на беларускую.

Прайшоў час, і я зразумела, што вельмі памылялася. Да канца недаацаніла яе творчай смеласці, арыгінальнасці, крэатыўнага стаўлення да слова…».

«Ацаніць да канца нававыяўлены пераклад змогуць спецыялісты; чытач жа можа адцеміць для сябе пэўныя ўдачы, адкрыцці, якія (раптам?..) прамінулі ў сваіх работах А. Дудар і А. Куляшоў, ці хібы, якіх ранейшыя перакладчыкі ўдала пазбеглі. Так ці інакш, ва ўсякім перакладзе выяўляецца ўласная творчая манера перакладчыка. І калі ў арыгінальных творах паэт перастварае жыццё, то і ў перакладзе ён застаецца найперш паэтам, пераствараючы мастацтва. Напрыклад, пераклады Уладзіміра Караткевіча з туркменскага паэта Махтумкулі па ацэнцы іншага яго перакладчыка, Казіміра Камейшы, вельмі вольныя. А ў перакладах Рыгора Барадуліна ўсякі паэт рабіўся геніем.

Валянціна Сярых таксама адзначае: «Мой любімы з дзяцінства Пушкін загучаў на яскравай, выразнай і каларытнай беларускай мове». Аўтар своеасаблівых уводзінаў да прадмовы В. Сярых і ўласна перакладу Юлія Алейчанка таксама кажа пра адметнае беларускае гучанне «Анегіна» Аколавай: «Відавочна, што не баялася яна адыходзіць ад стылістычнага афармлення арыгінала. І часам стварэнне новых вобразаў было цалкам удалым. Як добра гучаць перыфразы "зерніва з нябёсаў" ці "зямлі адзенне", метафара "сняжынак заанёльскі смех"… І скрозь беларуская, сакавітая, часам неалагічная, лексіка: "шкліны", "холадзь", "яркасны", "дрыготлівы", "гарчавіць", "адвосень", "болень", "вогмень"».

Так мы атрымліваем не столькі пераклад з мовы на мову, колькі пераклад з рэалій на рэаліі, са светапогляду на светапогляд, які, зрэшты, і мусіць быць паэтычны пераклад. Між тым ёсць і хібы: залішняя вольнасць адводзіць, хоць і ў дробязях, перакладчыцу ад арыгінальнага тэксту; аднак рытмічны малюнак захоўваецца.

Калі забыцца на імгненне, што пушкінская Таццяна — пані з рускага дваранскага роду, у Валянціны Аколавай мы ўбачым беларусачку Таццяну, у якой «гарэлі вусны» і «Слязіўся шчасцейкам пагляд» — надзвычай пазнавальны партрэт. І сапраўды, можна было б сказаць, што іншым разам мы маем справу не з перакладам твора А. Пушкіна, але з беларусізацыяй гэтага твора. Можна было б — але немагчыма, прынамсі, пакуль не будзе надрукаваны поўны пераклад Валянціны Аколавай.

**Андрэй ЖБАН**



# Адагрэцца Словам

**і робіцца халодна — не толькі ў прыродзе, але і на душы, бяру з паліцы кнігу паэзіі — ецца агністым радком Нізамі, Фізулі, Гянджаві альбо Байрана, Цвятаевай, Купалы — еніяў не мае межаў… Цешыць, што хутка да гэтых тамоў далучыцца і зборнік вершаў ітай азербайджанскай паэтэсы Лейлы Аліевай, выдатна перастворыны яе беларускай янай Сівец. Пакуль жа чытачы «ЛіМа» могуць пазнаёміцца з новымі творамі аўтаркі, суцяшаюць у нягодах, прымушаюць задумацца пра тое, што сапраўды важна, дораць заўтрашні дзень. Сапраўдныя паэты не баяцца быць шчырымі: у вершах Л. Аліевай ырасць — гранічная, на мяжы з болем, але і боль гэты — ачышчае. Так, ёсць штосьці ў яе паэтыцы, але пры гэтым творца не імкнецца стаць да некага падобнай, захоўвае ць, ніколі не забываецца пра ўласныя карані, сваю Радзіму. Празрыстасць, дабрыня, асць — адметныя рысы паэзіі Л. Аліевай, якія зноў і зноў прыцягваюць да яе радкоў.**

***Ісфандзіяр Бахціяр аглы ВАГАБЗАДЭ, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспубліцы ў Рэспубліцы Беларусь, член Саюза пісьменнікаў Азербайджана, сьменнікаў Беларусі, член Саюза журналістаў Беларусі, доктар філалагічных навук, прафесар***

**Лейла АЛІЕВА**

## Я цябе не буду болей крыўдзіць

*Гэтак дні сплываюць вокамгненна,*
*У вакно зірнула — там зіма!*
*На тугу я хворая, ды, пэўна,*
*Ў гэтым вінаватая сама!*
*Летняя душа мая прастыла,*

*Не шкадуюць маразы душу!*
*Сонца ўчора ружы залаціла,*
*А сягоння футра я нашу!*
*Што ж ты, сэрца, мерзнеш, адкажы мне?*
*Як тваю самоту адагрэць?*

*Я б табе цяпло наваражыла,*
*Толькі не жадаеш ты гарэць!*
*Гэтак дні сплываюць вокамгненна,*
*Ім услед "вярніцеся!" крычу.*
*Шэсць гадзін — дарога пацямнела,*

*Я ж да сонца даляцець хачу!*
*Калі б толькі здолела, трымала б*
*Сонца я заўсёды — у руках,*
*Каб ніколі ноч не наступала,*
*Каб ніхто на змрок не наракаў!*

*Ты даруй мне, сэрца, я адкрыла*
*Таямніцу ў нашай барацьбе!*
*Я цябе не буду болей крыўдзіць,*
*Паспрабую зразумець цябе!*

## Сябе я пакараю за…

*Сябе я пакараю за*
*Усё, што ўчора нарабіла,*
*За ўсё, што не змагла сказаць,*
*І ўсё, што я нагаварыла.*

*За тое, што віно піла,*
*І што смяялася без краю,*
*І што прыгожаю была —*
*За ўсё сягоння дакараю.*

*Як хочацца хаця б на час*
*Сабою стаць, згубіўшы маску,*
*Хай д'яблы за плячом маўчаць,*
*Не трэба і анёльскай ласкі.*

*Так шмат вакол вачніц пустых,*
*Што болем прагнуць павячэраць,*
*Ды я аддам апошні ўздых*
*За тое, каб адолець шэрасць.*

*Сама сабе і друг, і брат,*
*Душы нікому не адкрыю,*
*Каб аніхто не змог забраць,*
*Пачуццяў я схаваю крылы.*

*Хай дакараюць і клянуць,*
*Людзей ні ў чым не папракаю,*
*Усмешкай адкажу, зманю*
*І застануся — у чаканні.*

*Сябе караю я, але*
*П'ю гэты келіх з асалодай*
*За тое, што іду далей,*
*За шчасце п'ю і за свабоду.*

## У Рыме на лаўцы бруднай

*У Рыме на лаўцы бруднай*
*Я завяршаю год.*
*Побач жабрак няўклюдны,*
*Што на душы ў яго?*

*Пахам гарэлкі цягне,*
*Бруду і цыгарэт.*
*Мы з ім, абое, з багны*
*Сумна глядзім на свет.*

*З хмурымі мінакамі*
*Не па дарозе нам.*
*Мы з ім цяпла шукаем,*
*Ім наймілей — мана.*

*Нам жа маніць не трэба,*
*Лепей пагаманіць,*
*Ён і ў кашулі зрэбнай*
*Будзе жыццё цаніць.*

*Ціха заснуў на лаўцы,*
*Чую, як ён захроп.*
*Сон можа лёгка страціць*
*Той, хто як вол здароў.*

*Нас паяднала нешта —*
*Мусіць, скажу сама.*
*Рым, што глядзеў з усмешкай,*
*Вецер, што абдымаў.*

## Як сталася, што знік наіў

*Як сталася, што знік наіў*
*І мары нашы спрахлі ўраз?*
*Ты помніш, кветкі мне насіў,*
*Іх у маім жа садзе браў!*

*Ты іх зрываў і мне дарыў,*
*А я глядзела з болем, як*
*Мае чароўныя сябры*
*У вазе ссохлыя стаяць.*

*Забраўшы пэндзаль, наўзамен*
*Карціну мне падараваў,*
*Мне ж за каштоўны дыямент*
*Мілей радзімая жарства!*

*Прынёс ты кніг вялізны стос —*
*Старонкі іх не маюць слоў.*
*Ты падарыў мне сонцаў сто,*
*Ды спапяляла іх святло!*

*І шэры дождж, і парасон,*
*І нават дом цагляны — мне*
*Ты падарыў, але на ўсё*
*Глядзела я нібы ўва сне.*

*І парасон дзіравы быў,*
*І дом — без вокнаў ды дзвярэй!*
*У ім — хіба сысці ў нябыт,*
*Ды не хачу з табой старэць!*

*Ты запытаўся ў соты раз:*
*«Чаго ж ты хочаш, гавары!»*
*Вярні мне ўсё, што ты забраў,*
*І больш нічога не дары!*

## Дайце мне лекі

*Дайце мне лекі ад болю і суму,*
*Дайце мне лекі ад жарсці і тлуму,*
*Дайце мне лекі, ды каб не манілі,*
*Дайце мне лекі, каб час супынілі.*

*Дайце мне лекі ад зла і нябыту,*
*Дайце мне лекі ад мараў нязбытных,*
*Дайце мне лекі ад чорнай навалы,*
*Дайце ж такія, каб мне даравалі.*

*Дайце мне лекі ад сонца й завеі,*
*Дайце мне лекі, каб морак развеяць,*
*Дайце мне лекі, каб пэндзаль трымала,*
*Дайце мне лекі, каб рук не ламала.*

*Дайце мне лекі ад гневу, папрокаў,*
*Дайце мне лекі, каб верыць Прарокам.*
*Дайце мне лекі вы не ад ангіны,*
*А каб ніхто ў адзіноце не згінуў.*

*Дайце мне лекі ад фальшы з трыбунаў.*
*Дайце мне лекі ад нораваў буйных.*
*Дайце мне лекі ад позіркаў зімных,*
*Дайце хутчэй ад расстання з Радзімай.*

*Дайце вы лекі мне без шкадавання,*
*Дайце мне лекі, каб разам трывалі!*
*Дайце мне лекі, існуюць яны —*
*Добрыя словы, шчаслівыя сны!*

**Пераклад з рускай мовы Таццяны Сівец**

---

**У якой бы краіне ні жыла жанчына, яе сутнасць раскрываецца праз паэзію. Лірычнай падборкай сябра Саюза пісьменнікаў Таджыкістана Рано Мубарыз «ЛіМ» анансуе наступны, спецыяльны, выпуск, прысвечаны літаратуры гэтай краіны. Сёння творы Рано Мубарыз перастворыны па-руску, па-ўзбекску, па-англійску і па-кітайску. А цяпер загучаць і па-беларуску — у перакладзе пісьменніцы Яны Явіч.**

# «Ля паднужжа той гары»

**Рано МУБАРЫЗ**



## Каменная кветка

*Вясна-краса, мяне ты знаеш*
*Падобнай да цябе даўно.*
*— А хто ж ты? — раптам запытаеш.*
*— Гаранка, — адкажу, — Рано.*

*А ля падножжа той гары*
*Была каменнай я дзяўчынай.*
*З душою, цвёрдай да пары,*
*Ды і ў аблічча сакаліным.*

*Як у нізіну з гор сышла,*
*Дык цвёрдасці былой не маю —*
*Ператваралася я ў шоўк.*
*І думкі сталі кругаверцю,*
*Згубіўся ў памяці іх шлях,*
*Ды што б ні здарылася ў свеце,*
*Я — кветка з каменя ў гарах!*

## Жаданне

*Не трэба з неба зорку мне дарыць,*
*З вачэй прыўкрасных слёз не трэба ліць*
*І слоў тваіх пустых, такіх дарэмных,*
*Няшчыра не патрэбна гаварыць.*

*Я не хачу ў тваё жытло ўваходзіць*
*І бачыць не хачу ў сябе ў гасцях.*
*Ты часта смутак мне дарыў і слёзы,*
*А сам у радасці жыві — наўсцяж.*

*Гады з табою ў сэрцы праляцелі...*
*Нічога я за шчасце не прашу:*
*Уваскрасаць пачуцці не схацелі,*
*Бо знішчыў ты жыцця майго душу.*

*Хачу адно жыццёвага спакою,*
*А золата дарыць не трэба мне.*
*За сэрца ж, што разбітае табою,*
*Цябе не буду вінаваціць, не.*

## Горная газель

*Што бачыла ў жыцці яшчэ я за гарамі,*
*Што я з зямлі збірала разам з камянямі,*
*Апроч нягод і смутку сярод гор высокіх*
*Што хуткаплыннае жыццё мне несла*
*з днямі?*
*Шкада, што свет ёсць толькі родны*
*мой агмень,*
*Імкнуся прэч з яго і не спынюся ў марах!*
*Жыву тут столькі год, ляціць душы*
*прамень*
*На новую сцяжыну, што заўжды шукала,*
*І толькі радыё вясцінку мне нясе.*
*А час наспеў мой — уваходжу ў новы свет,*
*Ціхмяную хадой стаіўшы подых,*
*І ведаю, што будуць мае горы*
*Празрыстым шоўкам, а пакуль, да часу,*
*Газеллю-ветрам адлятаю ў новы край.*

# Паэтызацыя страсці

**Выбух пачуццёвасці і эратызму на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі — 1 і 2 сакавіка адбылася прэм'ера экспрэсіўнага, вытанчанага і адначасова вельмі палкага балета «Маленькая смерць». Спектакль прайшоў на адным удыху — за 20 хвілін. Аўтар пастаноўкі — нідэрландскі харэограф Іржы Кіліян, родам з Чэхіі, легендарны «рэфарматар» еўрапейскага балета XX стагоддзя. Пастаноўка твораў майстра, вось ужо другі раз, — эксперымент для Вялікага тэатра, што прывык да класікі.**

У трайным «скачку» за два вечары артысты паказалі гледачам сцэну «Цені» з балета «Баядэрка» Марыуса Петыпа і толькі затым... доўгачаканую «Маленькую смерць» і «Шэсць танцаў» Кіліяна. Дзве апошнія пастаноўкі неразлучныя, хоць і моцна адрозніваюцца па настроі. Дарэчы, жартаўлівыя «танцы» мінскі глядач ужо ведае з 2013-га года. Харэаграфія Кіліяна паяднаная з музыкай Вольфганга Амадэя Моцарта, рухі і мелодыі проста зрастаюцца, быццам існавалі так заўсёды, ад пачатку. Дарэчы, іншая назва «Маленькай смерці» — балет для «шасці мужчын, шасці жанчын і шасці рапір». Ён быў створаны Кіліянам у 1991 годзе якраз да 200-годдзя аўстрыйскага віртуоза.

Гэта па-новаму пластычная, пазбаўленая архаікі, вельмі лірычная харэаграфія, якая ўдала балансуе на межах эстэтыкі і сексуальнасці. Кіліян прапануе сумесь сучаснай харэаграфіі і балетных па. «Маленькая смерць» з'яўляецца новай творчай ступенню для Вялікага тэатра і гледачоў, што прызвычаіліся да традыцыйных сюжэтных калізій. Так, у прэм'еры Кіліяна няма фабулы, але выйсце ёсць: калі будзеш аддавацца пачуццям разам з танцорамі, паглыбішся ў музыку — усё зразумееш. Для «Маленькай смерці» харэограф абраў часткі двух самых выдатных фартэпіянных канцэртаў Моцарта.

Тэатры ўсяго свету змагаюцца за права паставіць Кіліяна, але для гэтага трэба мець у арсенале высокапрафесійную трупу і тэхнічныя магчымасці. Беларусам у гэтым плане пашанцавала. У Мінску рэпетыцыі з нашымі артыстамі правадзіла асістэнт харэографа, балетмайстар Шырлі Эсэбум, выдатная балерына, былая танцорка Нідэрландскага тэатра танца і патрабавальны педагог. Менавіта яна ў свой час займалася харэаграфіяй «Шасці танцаў» на сцэне Вялікага, вучыла беларускіх артыстаў разумець мову майстра. Другасных герояў у Кіліяна няма — толькі галоўныя. Прэм'еру танцавалі Ігар Артамонаў, Юрый Кавалёў, Канстанцін Кузняцоў, Такатошы Мачыяма, Ігар Аношка, Ірына Яромкіна, Аляксандра Чыжык, Юлія Дзятко... Артыстам было нялёгка перастроіцца, бо іх рухі заточаныя пад класіку. Тым больш трэба было вучыцца быць больш раскаванымі, але і стрыманымі адначасова. Навошта? Назва балета «Маленькая смерць» — эўфемізм аргазму ў перакладзе з французскага «*La petit morte*».

Іржы Кіліян — вынаходнік у сваёй галіне. Бессаромныя дотыкі, перакрыжаванні цел, нібы ў экстазе, змешваюцца на сцэне са звыклымі позамі кшталту «арабеск» альбо «ан дэор». Кіліян выходзіць за рамкі балета, напаўняе лексіку танца сваімі, свабоднымі, словамі, дае гледачам прастор для фантазіі — і разважанню.



*Сцэна з балета «Маленькая смерць».*

Глыбокая і меланхалічная музыка (дырыжорам-пастаноўшчыкам аркестра выступіў Іван Касцяхін) перапляталася на прэм'еры з выразнымі, як маятнік, рухамі. Кіліян кажа пра складанае так, нібы гэта ненадакучлівая балбатня ў партэры. Пачуццё любові ва ўсім яго дыяпазоне, гульня на грані платанічнага і цялеснага, «перабежкі» ад далікатных заляцанняў да эратычнай цягі — галоўны аб'ект даследавання ў «Маленькай смерці». Але балет спрэс пазбаўлены пошласці. У гэтым сакрэт вялікага мастацтва. Кіліян выкарыстоўвае сімвалічныя прыёмы, падказкі-метафары, паэтызуе кульмінацыю страсці, паказваючы ўсе грані пачуццяў мужчыны і жанчыны вельмі вытанчана і далікатна.

Танцорам нічога не перашкаджае рухацца: на мужчынах толькі плаўкі цялеснага колеру, на жанчынах — бялізна і гарсэты (касцюмер таксама з Нідэрландаў — Ёуке Вісэр). Ніякіх звыклых балетных пачак і каляровых трыко. Вострыя рапіры ў пачатку і сукенкі-муляжы на калёсіках — вось і ўся бутафорыя.

Іржы Кіліян шмат у чым філосаф, які даследуе чалавечую натуру, псіхалогію, а не толькі магчымасці цела. Трыццаць гадоў ён узначальваў Нідэрландскі тэатр танца (*NDT*) у якасці арт-дырэктара і галоўнага харэографа. Цяпер займаецца пастаноўкамі сваіх балетаў у розных краінах.

«Я ствараў гэтыя балеты свабоднай душой, у вольным духу. І гэта адзіны шлях, па якім можна ісці ў танцы», — адзначае балетмайстар, які даслаў беларускаму тэатру сваё віншаванне з прэм'ерай. Пастаноўкі на беларускай сцэне — копіі арыгіналаў. Так запатрабаваў маэстра. Праўда, кожны танцор можа выканаць партыю па-свойму, унесці індывідуальны каларыт.

Чым жа так адрозніваюцца ўжо знаёмыя «Шэсць танцаў» Кіліяна ад яго ж «Маленькай смерці»? У аснове «танцаў» — імклівыя, жартаўлівыя «Нямецкія танцы» Моцарта. Тое, што адбываецца на сцэне, таксама выглядае як каламбур, пародыя на манернасць галантнага стагоддзя парыкоў, з якіх так і сыплецца пудра ... На сцэне таксама паказаны адносіны мужчын і жанчын, але яны нібы напамаджаныя, марыянетачныя, не больш, чым заляцанні, плёткі і інтрыжкі. «Шэсць танцаў» — рэдкая разнавіднасць камічнага балета, прычым гумар не ў сюжэце, а ў харэаграфіі.

Тым, хто не паспеў убачыць прэм'еру, абяцаюць паказаць яе ў красавіку, а таксама ўключыць у праграму «Балетнага лета ў Вялікім». Акрамя таго, кіраўніцтва тэатра паабяцала падоўжыць супрацоўніцтва з нідэрландскім майстрам. Магчыма, хутка мы ўбачым яшчэ адну яго пастаноўку. Быць можа, «Бяссонніца» альбо «Васковыя крылы», якія ўжо з поспехам прайшлі ў Расіі?

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара.**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# Натхненне ў спадчыну

Маргарыта трыццаць пяць год займаецца мастацкім тэкстылем — складанай і ўнікальнай тэхнікай ручнога перапляцення нітак на адмысловай драўлянай раме. Яе габелены, як і жывапіс сястры, не пазбаўленыя яркіх, насычаных колераў, аптымістычнага настрою і мастацкай прыгажосці. Творца любіць эксперыментаваць з формамі, кантрастамі, фактурай, выкарыстоўвае розныя матэрыялы, але ж арыгінальнасці дасягае шляхам сумяшчэння традыцыйнага падыходу і асабістых канцэпцый. Для сюжэтаў выкарыстоўвае тэмы роднай прыроды і гісторыі, таксама, як і Людміла, адлюстроўвае сюжэты з паўсядзённага жыцця.

Творчасць мастачак характарызуецца дабрынёй, якая сыходзіць не ад экспанатаў, а ад іх саміх. Шчырасць, цеплыня, утульнасць — нязменныя складнікі мастацкага працэсу. Кожная работа суправаджаецца гумарам. У Людмілы гумар адкрыты, відавочны, яго не трэба шукаць. Добры настрой як сімвал, мастацкі знак кідаецца ў вочы. У Маргарыты панiцце гумару спецыфічнае. Яна не дазваляе хутка адчуць яго прысутнасць, а запрашае паразважаць, абдумаць твор. Завуаляваныя сэнсы трэба разгадаць, але ж гэта і ёсць творчая канцэпцыя, выпрацаваная часам. Іронія не жорсткая, павучальная. Філасофскія падтэксты (своеасаблівыя ўрокі жыцця) прысутнічаюць у мастацкай прасторы абедзвюх сясцёр. Мастачкі не саромеюцца быць сабой, адкрыцца гледачу, чым робяць творчасць прыцягальнай і актуальнай.



*Людміла Шчамялёва «Спі, мая радасць».*

Людміла і Маргарыта ўпэўнены: натхненне дасталася ім ад бацькі. Гэта не размова пра генетычны фактар альбо жаданне быць лепшымі, а магчымасць працягнуць традыцыі, захаваць сямейныя каштоўнасці. Мастачкі вераць, што для дасягнення найвышэйшага выніку ў творчасці ды наогул у жыцці трэба вучыцца, не складаць рукі, шукаць дабрыню ва ўсім і абавязкова слухаць не толькі сябе.



*Маргарыта Шчамялёва «Пані крыху ў гадах».*

Выстаўка атрымалася святочная. Яркія кветкі, разнастайнасць колераў, вясёлыя сюжэты на палотнах зачароўваюць прыгажосцю і вясновым настроем.

**Вікторыя АСКЕРА**



# Ніна Шарубіна:
# «Ёсць людзі, праверaныя гадамі»

**Прымадонна беларускай оперы Ніна Шарубіна ў студзені адзначыла юбілей і на пачатку года атрымала званне «Народны артыст Беларусі». У 2008 годзе за заслугі ў развіцці нацыянальнай культуры і мастацтва яна ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны. У 2013 годзе за значны ўклад у беларускую нацыянальную культуру спявачцы прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь. Яна паспяхова прадстаўляе нашу краіну ў выступленнях за мяжой і на гастролях тэатра. Паспела шмат пры тым, што яе кар'ера ў беларускім тэатры оперы пачалася, калі ёй споўнілася без малога 40 гадоў.**

**— Ніна Уладзіміраўна, хто дапамог, падказаў, падтрымаў і накіраваў таленавітае дзіця з беларускай глыбінкі ў музыку?**

— У роднай вёсцы Калінавая, што прыгожа раскінулася на беразе Дняпра, я вучылася ў пачатковай школе, а затым перайшла ў дзесяцігодку ў суседняй вёсцы Палыкавічы, на базе якой адкрылася музычная школа. Дзеці ў ёй вучыліся бясплатна — усё аплачваў калгас «Камінтэрн». Педагогі прыязджалі з Магілёва. Гэта быў залаты час для музычнай школы. Які ў нас быў хор! Духавы аркестр! Аркестр рускіх народных інструментаў! Вакальна-інструментальны ансамбль! На базе хору яго кіраўнік Таццяна Васільеўна Кузіна стварыла вакальны квартэт. Мы двойчы станавіліся лаўрэатамі папулярнага ў тыя гады тэлевізійнага музычнага конкурсу «Чырвоныя гваздзікі». Хай гэта гучыць банальна — я спявала заўсёды, колькі сябе памятаю: завучвала песні, якія гучаць па радыё, слухала вінілавыя пласцінкі. Мая мама іграла па слыху на гармоніку, дзядзька быў музыка-самавук. Аднавяскоўцы часта запрашалі маму паіграць на вясковых святах.

Я марыла займацца на фартэпіяна, пасля таго як першы раз убачыла яго ў музычнай школе. Бацькі не вырашаліся набыць дарагі інструмент — не былі ўпэўненыя ў тым, што я ў нейкі момант не кіну музыку. Я — у слёзы! Мне прапанавалі займацца на баяне, купілі прыгожы інкруставаны інструмент, і я пачала вучыцца музыцы.

Што да іншых прадметаў, я гуманітарый, у школе любіла літаратуру, скончыла дзесяцігодку з залатым медалём. Падчас вучобы ў школе марыла быць юрыстам. Нават спрабавала паступаць на юрфак БДУ. Медалісты ў той час павінны былі здаваць пры паступленні адзін экзамен, але на «выдатна». Калі б я атрымала на ўступным па гісторыі «пяць», а не «чатыры», магчыма, маёй прафесіяй была б не музыка. Я забрала дакументы і паступіла на аддзяленне харавога дырыжыравання ў Магілёўскае музычнае вучылішча, у клас да Таццяны Васільеўны Кузінай.

На другім курсе да нас прыйшла выдатны педагог — Людміла Яўгенаўна Браілоўская, якая скончыла ў свой час Маскоўскую кансерваторыю па класе вакалу. Яна выкладала ў нас пастаноўку голасу. У хоры я заўсёды спявала самым нізкім голасам. Людміла Яўгенаўна на першым жа занятку «расспявала» мяне вельмі высока, я нават не ўяўляла, што магу браць такія высокія ноты. Браілоўская арганізавала гурток «Дняпроўская ліра» — для салістаў-вакалістаў у Магілёўскім палацы культуры і тэхнікі «Хімвалакно». Сярод удзельнікаў «Дняпроўскай ліры» былі людзі розных прафесій: інжынеры, настаўнікі, проста рабочыя. Заняткі былі абсалютна бясплатнымі. Мы ўсе сябравалі, у дзень нараджэння Людмілы Яўгенаўны збіраліся дома ў Браілоўскіх усім калектывам як вялікая сям'я. Ды і цяпер з многімі падтрымліваем адносіны. Алег Кавалеўскі — саліст хору Белтэлерадыёкампаніі. Танечка Бядуленка скончыла маскоўскую ВНУ і працавала ў тэатры Барыса Пакроўскага. Валечка Сцяпанава не стала прафесійным музыкам, але працягвала займацца ў студыі. Наш цудоўны тэнар Сярожа Франкоўскі стаў народным артыстам Беларусі. Ёсць людзі, якія праверaныя гадамі, я памятаю іх і люблю.

**— Як складвалася ваша прафесійная дзейнасць пасля музычнага вучылішча?**

— Калі па размеркаванні я трапіла ў Клімавіцкі раён працаваць настаўнікам музыкі ў сельскай музычнай школе за 160 км ад Магілёва, усё роўна кожны тыдзень ездзіла ў Магілёў займацца вакалам. Два гады я працавала і жыла там, а затым год дапрацоўваецца ў музычнай школе ў саўгасе «Махава», размешчаным бліжэй да Магілёва. Вельмі хацелася займацца ў Браілоўскай, і я старалася не прапускаць ніводнага занятку. Памятаю, аднойчы была галалёдзіца, аўтобус не прыйшоў, і я шэсць кіламетраў ішла пешшу ў Магілёў, каб не прапусціць свой урок вакалу. Зараз я заўсёды кажу сваім вучням: калі ёсць мэта, ідзіце да яе, нельга здавацца і сядзець склаўшы рукі.

**— Калі вы паступілі ў кансерваторыю? Хто вашыя педагогі?**

— У мяне ўсё складвалася няпроста. У першы год пасля заканчэння вучылішча я прыехала на кансультацыю ў Мінскую кансерваторыю і праслухоўвалася ў педагога, які патрабаваў ад мяне нейкі безаблічны гук, ад яго ж я пачула, што «рычу ніжнія ноты» і г. д. Мяне гэта вельмі засмуціла, я нават не стала здаваць экзамены, забрала дакументы і паехала дадому.

У Маскоўскую кансерваторыю і Гнесінскі інстытут я спрабавала паступаць чатыры гады запар. Быў вельмі строгі адбор. У Маскву ж ехалі таленавітыя з усяго Савецкага Саюза. Калі ў чарговы раз не паступіла, вярнулася ў Магілёў і выпадкова сустрэла на вуліцы дырэктара вучылішча Леаніда Леанідавіча Іванова. Ён сказаў: «Ну і што, што не паступіла ў Маскву! Тэрмінова падавай дакументы ў нашу кансерваторыю! » Я паступіла ў 1989 годзе з «пяцёркай» у клас Валянціны Мікалаеўны Раговіч. У класе ў яе была шыкоўная атмасфера — гэта вельмі важна, я разумею гэта цяпер, калі выкладаю сама.

**— З кім з вашых калег разам вучыліся?**

— Я вучылася разам з артыстамі нашага хору — Ільёй Пеўзнерам, Ліліяй Кручкоўскай, Вольгай Татарунас, Таняй Варапай, якая цяпер з'ехала ў Францыю; Ірай Цярэнцьевай, якая пайшла ад нас рана, але была вядучай салісткай музычнага тэатра. З Сярожам Франкоўскім мы здавалі іспыты ў адзін год, але ён паступіў на падрыхтоўчае аддзяленне, а я на першы курс. Франкоўскі — мой зямляк, мы разам пачыналі свой спеўны шлях у Людмілы Яўгенаўны Браілоўскай. На сцэне ён шыкоўны партнёр, цёплы, надзейны, сапраўдны. Аднакурснікам быў і мой муж — Аляксандр Прахарэнка. Саша скончыў Адэскі інжынерна-будаўнічы інстытут, потым вучыўся ў Гомельскім музычным вучылішчы, далей скончыў Мінскую кансерваторыю па класе «Сольныя спевы», пасля атрымаў адукацыю па спецыяльнасці «Рэжысёр музычнага тэатра».

**— Ваш муж таксама працуе ў тэатры. Ці пойдзе па бацькоўскіх слядах сын?**

— Перш чым муж пачаў працаваць у Вялікім тэатры Беларусі, ён спяваў у беларускім Музычным тэатры, выкладаў, у наш тэатр прыйшоў у якасці рэжысёра па ўводзе, а ў цяперашні час займае пасаду намесніка дырэктара па вытворчасці. Сын вучыцца на другім курсе Беларускага эканамічнага ўніверсітэта. Мы двойчы спрабавалі аддаць яго ў музычную школу, пачынаючы з шасці гадоў, але... Хоць голас у яго неблагі, добрыя слых і пачуццё рытму. Я рада, што ён ходзіць на мае спектаклі і часам нават кажа: «Я табой ганаруся».

**— Ці дакладна тое, што вы спрабавалі сябе ў эстрадзе?**

— Падчас вучобы ў музвучылішчы я спявала ў ВІА, на працягу трох гадоў, напэўна. У рэпертуары былі песні Алы Пугачовай, Розы Рымбаевай. Я з задавальненнем выконвала шлягеры таго часу: «Твае сляды», «Вярні мне музыку», «Два стрыжы» і інш. Я называю гэта «галасавой эстрадай». Мы нават ездзілі на гастролі ў Туркменістан і Ніжнявартаўск. Неяк пасля чарговых гастроляў я прыйшла на заняткі да Браілоўскай, стомленая, і яна мне сказала: «Ты, дзетачка, вызначся: ці спяваеш эстраду, ці займаешся акадэмічным вакалам. Голас трэба берагчы». Я думала роўна тры хвіліны... З тых часоў эстраду больш не спявала.

**— Вы прыйшлі ў оперны тэатр у 2002 годзе. Дзе спявалі да гэтага?**

— Пасля кансерваторыі паступіла ў асістэнтуру-стажыроўку да прафесара Леаніда Пятровіча Івашкова. Потым мяне запрасілі на працу ў Магілёўскую філармонію, дзе ўсе гэтыя гады я была салісткай. У Мінску рэгулярна займалася з канцэртмайстрам у кансерваторыі. Гэтыя заняткі не прайшлі дарма. Я ведала дакладна, чаго хачу. Шмат разоў праслухоўвалася ў тэатр. У 1998 годзе ў мяне адбыўся дэбют у тэатры, хоць у штат мяне і не ўзялі, але яшчэ некалькі разоў запрашалі замяніць кагосьці з салістак, што захварэлі.

У 2002 годзе мяне пачуў дырыжор Мікалай Сяргеевіч Калядка і запрасіў на рэпетыцыю оперы «Сельскі гонар», дзе я замяніла хворую салістку і падпела тэнару, які уводзіўся ў спектакль. Запомнілася, як цёпла прыняў мяне аркестр, музыкі нават апладзіравалі. Мікалай Сяргеевіч парэкамендаваў мяне мастацкаму кіраўніку оперы Маргарыце Ізворскай-Елізар'евай. Яна прапанавала замест праслухоўвання праспяваць партыю Амеліі ў спектаклі Джузэпэ Вердзі. Прапанова паступіла ў кастрычніку, а ў снежні я праспявала «Баль-маскарад», не будучы яшчэ салісткай тэатра. Вельмі хвалявалася. Перад спектаклем у грымёрку зайшоў Мікалай Сяргеевіч Калядка. Убачыўшы, што я не магу нават намаляваць бровы, таму што рукі дрыжаць, ён сказаў: «Не хвалюйцеся, галоўны экзамен вы вытрымалі, калі спявалі аркестравую рэпетыцыю. Вам апладзіравалі і хор, і аркестр. Спявайце дзеля задавальнення». Адразу пасля спектакля я была залічана ў штат тэатра. Дзякуй Маргарыце Мікалаеўне і Мікалаю Сяргеевічу! На працягу сезона я вывучыла і выканала пяць вядучых партый у спектаклях «Баль-маскарад», «Мадам Батэрфляй», «Пікавая дама», «Аіда» і «Тоска».

**— Можна сказаць, што Вердзі — ваш кампазітар? Ці ёсць любімая, асаблівая партыя?**

— Мне блізкі Вердзі. Калісьці Мікалай Сяргеевіч Калядка назваў мяне «вердыеўскай спявачкай». Вельмі падабаецца партыя Абігайль з «Набука». Яна кладзецца на голас, нягледзячы на тое, што лічыцца адной з самых тэхнічна і вакальна складаных сапранавых партый. «Нарэшце ты іграеш жорсткую жанчыну, а то ўсё нейкіх, што плачуць, пакутуюць», — сказалі неяк сябры, убачыўшы мяне ў гэтай ролі. А Наташа Цылінская, спартсменка, велагоншчыца, з якой мы пасябравалі на тэлеперадачы «Мы разам», пасля спектакля «Набука» сказала: «Абігайль — бедная, адкінутая жанчына, якая змагаецца за сваё каханне». Думаю, што яна трапіла ў яблычак.

З іншых партый вельмі люблю Тоску. Чыа-чыа-сан — складаная і вельмі драматычная партыя. Я эмацыянальна вельмі стамляюся пасля гэтага спектакля, хоць і імкнуся працаваць з халоднай галавой, ведаючы, што ні ў якім разе нельга паддавацца пачуццям. Таму што я чалавек эмацыянальны, і калі недзе «адпускаю» сябе, то нават цякуць слёзы па твары. Гэтая партыя — марафон, больш за гадзіну чыстых спеваў. Адна з самых любімых — Сантуцца ў «Сельскім гонары» П'етра Масканьі, драматычная з першага выхаду, з першай ноты. Вельмі люблю Яраслаўну ў оперы «Князь Ігар» Аляксандра Барадзіна. Гэта моцны, светлы, прыгожы вобраз. Лэдзі Макбет у оперы Вердзі, прэм'ера якой пройдзе ў сакавіку, — спрэчны вобраз, але і яе я не адчуваю як абсалютна адмоўнага персанажа.

**— Нядаўна вы сталі народнай артысткай Беларусі. Што для вас значыць гэта высокае званне?**

— Любому чалавеку прыемна, калі яго праца ацэньваецца. У нашай прафесіі адзін у полі не воін. Спектакль — гэта праца вельмі многіх людзей, пачынаючы ад суправоджваючых пашывачных цэхаў да артыстаў хору, аркестра, салістаў. Маё званне — гэта ацэнка вялікай працы ўсяго нашага калектыву.

**Вольга САВІЦКАЯ**

## Зямля пад белымі крыламі

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

# Чаму горка — Пятрова

### Гэта ўсё жыццё тлумачыў першы дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея Уладзімір Ліўшыц

Нарадзіўся Уладзімір Майсеевіч у горадзе Красны Кут Саратаўскай вобласці (маці з дзецьмі былі ў эвакуацыі). Аднак хутка сям'я вярнулася ў Горкі. Хлопчыка цікавілі зусім не дзіцячыя пытанні: чаму вуліца называецца Бруцара-Ерафееўская, а горка — Пятрова. Калі пайшоў у школу, пытанняў стала больш. Вучыўся добра, асабліва вабілі гуманітарныя навукі. Настаўніца гісторыі Валянціна Пухоўская, якая захаплялася краязнаўствам, цікаўнасць Ліўшыца падтрымлівала.

Потым вучоба на гістарычным факультэце Магілёўскага педінстытута. Тут ён ужо быў, як кажуць, у сваёй стыхіі: наведваў студэнцкі навуковы гурток, займаўся даследаваннямі, пісаў шмат работ. Працаваў з архівамі Віцебска, Гомеля.

Пасля службы ў арміі паехаў не дамоў, а ў Кіеў, у Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, дзе знаходзіць «Справу аб палітычнай дэманстрацыі ў Горы-Горках 16 студзеня 1905 года», адкрываюцца новыя, невядомыя раней дакументы пра рэвалюцыйны рух у Горках.

Працаваў настаўнікам гісторыі ў Панкратаўскай сярэдняй школе, у Горацкім раённым аддзеле адукацыі, у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (БСГА). Вывучаў гісторыю горада і раёна, гісторыю сельскагаспадарчай акадэміі, выступаў з артыкуламі ў друку.

У выдавецтве «Беларусь» выйшла кніга «Горкі. Гісторыка-эканамічны нарыс». Потым былі яшчэ «Горкі» (1989 г.), даведнік «Горкі і ваколіцы» (1993 г.), «Летапіс горада Горкі» (1995 г.). У. Ліўшыц — адзін з аўтараў калектыўнай манаграфіі, якая выйшла да 150-годдзя БСГА, аўтар навукова-папулярных кніг пра акадэмію, ініцыятар выдання і аўтар-складальнік энцыклапедычнай кнігі «Летапіс Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі».

Дзякуючы нястомным краязнаўчым пошукам Уладзіміра Майсеевіча ў Горках у 1989 г. адкрылі музей. Стварэць экспазіцыю пачалі ў верасні 1987 г.

Уладзімір Майсеевіч стаў першым дырэктарам раённага гісторыка-этнаграфічнага музея. На гэтай пасадзе талент даследчыка-краязнаўцы праявіўся напоўніцу: адкрыты новыя старонкі гісторыі Горак і раёна. У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу знайшоў герб горада Горкі, вывучае гісторыю партызанскага руху, збірае матэрыялы пра баявыя дзеянні Чырвонай Арміі па вызваленні родных мясцін ад немцаў, папаўняе звесткі пра герояў і ахвяр вайны.

У першыя гады работы калектыў музея пад кіраўніцтвам Уладзіміра Майсеевіча працуе над рукапісам кнігі «Памяць», якая ўбачыла свет у 1996 г., — сапраўдная энцыклапедыя Горак і Горацкага раёна. Больш як 20 артыкулаў для выдання напісаў Уладзімір Ліўшыц.

Па яго прапанове пры музеі сталі дзейнічаць два аматарскія аб'яднанні — «Роднае слова» і «Мастацтва», якія аб'ядналі аматараў славеснасці і жывапісу, а пазней атрымалі званне «народны».

Асобнае месца ў дзейнасці Уладзіміра Майсеевіча займае літаратурнае краязнаўства, якім ён даўно і апантана займаецца. Яго літаратурныя даследаванні абагульнены ў брашурах і кнігах: «Раскопкі вакол горацкага "Парнаса". Метадычны матэрыял і парады ў дапамогу прапагандыстам кнігі» (1992); «Максім Гарэцкі — жыццё і творчасць» (1993); «Літаратурны музей Максіма Гарэцкага. Кароткі даведнік» (1997); «Сын вёскі. Кароткі нарыс аб жыцці і дзейнасці пісьменніка Васіля Каваля» (1997); «Даследчык беларускай літаратуры. Кароткі нарыс аб жыцці і творчасці літаратуразнаўцы



*Уладзімір Ліўшыц.*

Барыса Іофе» (1999), «Раскопкі вакол горацкага "Парнаса"». Літаратуразнаўчыя нарысы» (2001) і інш.

У. Ліўшыц быў ініцыятарам Гарэцкіх чытанняў, прысвечаных жыццю і творчасці Максіма Гарэцкага, якія ўпершыню праходзілі ў Беларусі на базе Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў 1992 г. Дарэчы, па яго ініцыятыве ў вучэбным корпусе № 4 адкрылі музей-кабінет Гарэцкага. Пры ўдзеле У. Ліўшыца быў створаны Беларускі рэспубліканскі фонд імя братоў М. і Г. Гарэцкіх.

Нягледзячы на тое, што Уладзімір Майсеевіч з 2007 г. знаходзіцца далёка за межамі Беларусі (жыве ў Ізраілі), ён не парывае сувязі з роднымі мясцінамі і Горацкім музеем, амаль кожнае лета прыязджае ў Горкі, вядзе «літаратурныя раскопкі». Яго нарысы можна ўбачыць у беларускіх газетах і часопісах, зборніку, падрыхтаваным па выніках раённай краязнаўчай канферэнцыі «Бацькаўшчына», сярод артыкулаў міжнародных і рэспубліканскіх навуковых канферэнцый.

У 2013— 2015 гг. У. Ліўшыц апублікаваў серыю кніг «Гордасць і слава зямлі горацкай». Першае выданне прысвечана землякам-вучоным, другое — героям Савецкага Саюза, генералам Узброеных Сіл і Міністэрства ўнутраных спраў, ураджэнцам горацкага краю, трэцяе — Героям Сацыялістычнай працы і заслужаным работнікам, дзеячам культуры БССР і Рэспублікі Беларусь, а таксама пісьменнікам і мастакам, жыццёвы і творчы шлях якіх пачынаўся ў Горацкім раёне.

Цяпер Уладзімір Майсеевіч працуе над трэцяй часткай кнігі «БСГА: гісторыя і сучаснасць. 1945 — 2015 гг. ». Рыхтуе другую кнігу, прысвечаную жыццю і творчасці класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Таксама падрыхтаваў біябібліяграфічны паказальнік «Летапісец Горацкага краю», у якім абагульніў сваё жыццё і творчыя здабыткі. Ёсць планы выдаць цыкл брашур па гісторыі горацкіх вёсак, стварыць навучальны дапаможнік для школ "Наш край".

У лютым члену Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага саюза журналістаў Уладзіміру Ліўшыцу споўнілася 70 год.

**Таццяна КАРАЕЎСКАЯ, Людміла ДЗЕРУЖКОВА**

*Цікава ведаць*

# Нарадзілася ў Рэчыцы

**Эстэр Айзікаўна Бер (нарадзілася на Гомельшчыне, у Рэчыцы, у 1903 годзе) пражыла доўгае жыццё. Памерла ў 1997-м… Не ведаю, ці пакінула яна пасля сябе ўспаміны. А тое, што жыццё яе — і палонам яе творчых здзяйсненняў, і многімі акалічнасцямі, з якімі яна судакраналася, — вартае ўвагі, дык ніякіх сумненняў не выклікае. Міркуйце самі…**

Закончыўшы гімназію ў Рэчыцы, яна ў 1921 годзе пераехала ў Маскву. Муж нашай зямлячкі — паэт Я. Эркін. Уваходзіў у аб'яднанне рабоча-сялянскіх пісьменнікаў «Перавал», якое існавала ў 1923 — 1932 гг. Яго паплечнікамі па літаратурнай рабоце былі М. Прышвін, Г. Караваева, А. Платонаў, П. Паўленка, Дж. Алтаўзэн, Э. Багрыцкі, А. Вясёлы… Што ні кажы, імёны гучныя!

За смугою часін цяжка разгледзець, што ж было зроблена ў літаратуры менавіта Яўсеем Эркіным. Але вядома яго кніга вершаў — «Август» («Жнівень»). Пабачыла свет у кааператыўным выдавецтве пісьменнікаў «Сегодня» ў 1927 годзе. 76 старонак, наклад — 1000 асобнікаў.

Вядома, што Яўсей Эркін нарадзіўся ў Манастыршчыне на Смаленшчыне. Добраахвотнікам на пачатку Вялікай Айчыннай вайны пайшоў на фронт. Загінуў у 1942 годзе. А яго брат — мінскі прафесар Рыгор Эркін — быў закатаваны ў фашысцкіх засценках.

Эстэр Айзікаўна была знаёмая з Сяргеем Ясеніным, Уладзімірам Маякоўскім і іншымі славутымі мастакамі слова. Закончыўшы ў 1930-я гг. Літаратурны інстытут і Курсы перакладчыкаў з англійскай мовы, сваёй творчай прафесіяй яна абрала мастацкі пераклад. Літаратурны псеўданім — Э. А. Бярэзіна. Найбольш вядомыя яе пераклады на рускую мову — «Шпіён» Фенімора Купера, «Белы правадыр» і «Паляўнічыя за жырафамі» Майна Рыда, «Тона Бэнге» Герберта Уэлса. Эстэр Айзікаўна — перакладчыца твораў Джэка Лондана, Марка Твэна, Тэадора Драйзера, Эдгара По.

Справядлівасці дзеля, трэба заўважыць, што існуе некалькі перакладаў «Шпіёна» Ф. Купера на рускую мову. Самы першы адносіцца да 1825 года. Пераклад, які Эстэр Айзікаўна ажыццявіла сумесна з Лізаветай Шышнаровай (1904 — 1996), адносіцца, відаць, да пачатку 1960-х… З таго часу раман Ф. Купера менавіта ў гэтым перакладзе пабачыў свет у 1982, 1992 (як мінімум двойчы, у розных выдавецтвах), 1989, 1990, 2003 (двойчы), 2010, 2011 (таксама двойчы) гадах.

…Сярод твораў Яўсея Эркіна ёсць і такі верш (цытую адну страфу):

*Странное странное время,*
*Потомок тебя не поймет:*
*Он слушал ружейные залпы,*
*И вкусы менялись в тот год.*

Каб зразумелі нашчадкі сваіх папярэднікаў, хіба ж не варта зазірнуць у іншыя часіны?

**Сяргей ЗАЛАМАЙ**

*Добрая навіна*

# Ад глыбокай старажытнасці…

**Прыкметна змяніў аблічча напярэдадні 25-годдзя Краснапольскі гісторыка-этнаграфічны музей. Рашэнне аб стварэнні гэтай установы было прынята напрыканцы 1991 года, а для наведвання яна адкрылася ў 1994-м.**

Цяпер у будынку пяць экспазіцыйных залаў і адна выставачная. Першая ахоплівае падзеі ад глыбокай старажытнасці да канца XVIII стагоддзя, другая прэзентуе этнаграфічныя асаблівасці рэгіёна. У трэцяй зале прадстаўлена рэканструкцыя інтэр'ера традыцыйнага сялянскага жылля канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

Экспазіцыя «Гісторыя краю» надзвычай змястоўная: рэвалюцыі, Першая і Другая сусветныя войны, узнаўленне народнай гаспадаркі, катастрофа на Чарнобыльскай АЭС, якая назаўжды змяніла жыццё тутэйшых жыхароў. Знайшлі адлюстраванне і дасягненні, якімі сёння ганарацца мясцовыя жыхары.

Багацце расліннага і жывёльнага свету раёна прадстаўлена ў межах пятай залы.

Нягледзячы на адносна невялікую колькасць экспанатаў, наведвальнікі пазнаёмяцца з галоўнымі вехамі ў гісторыі Краснапольшчыны.

* * *

На фотавыстаўцы «*Cherchez la femme*», якая адкрылася ў філіяле «Музей фатаграфіі» Музея гісторыі горада Гомеля ў гонар Міжнароднага жаночага дня, прадстаўлены работы Руслана Карпава, Сяргея Іванова і Валянціны Анціпенка. Здымкі фотамайстроў адлюстроўваюць шматграннасць жаночай натуры, якую на працягу многіх гадоў спрабавалі зразумець не толькі прадстаўнікі мастацтва, але і навукоўцы. Усе гераіні розныя, у кожнай сваё жыццё, характар, але ўсіх аб'ядноўвае каханне…

Руслан Карпаў — удзельнік і арганізатар шматлікіх выставак, прызёр і пераможца міжнародных фотаконкурсаў. Любімы яго жанр — псіхалагічны і жанравы партрэт, жанравая фатаграфія.

Сяргей Іваноў — член творчага саюза «Фотамастацтва» (Расія), мастак *PHOTOART* Беларускага грамадскага аб'яднання «Фотамастацтва». Пры здымках перавагу аддае рэпартажу, таму яго жаночыя партрэты — гэта серыя ўдалых імгненняў, якія адлюстроўваюць прыгажосць у штодзённасці.

Валянціна Анціпенка — адзін з арганізатараў серыі выставак «Фотасушка» і ўдзельнік конкурсаў фатаграфій, але, у адрозненне ад калег, удзел у гэтай выстаўцы з'яўляецца для яе дэбютам. Валянціна стварае жаночыя вобразы, параўнальныя з пяшчотнымі лясными німфамі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Паміж урокамі*

# Недзіцячая мужнасць

## Дарога жыцця Алы Чорнай: з Ленінграда ў Беларусь

**Чэрвень 1941-га. Ленінградскія хлопчыкі і дзяўчынкі, гэтаксама як і сённяшнія іх равеснікі, радаваліся жыццю, канікулам, планавалі цікавыя вандроўкі, паездкі да сваякоў. Ужо 8 верасня вораг узяў у кальцо вялікі і найпрыгажэйшы ў СССР горад. Пачалася блакада, якая прынесла голад, холад, смерць…**

Сведка тых страшэнных падзей — паэтэса Ала Чорная (Ала Дзмітрыеўна Кірылава) стала госцяй Клуба «Ветлівыя сустрэчы» падчас імпрэзы «Піянеры-героі навечна засталіся ў страі...», якая адбылася ў Цэнтры тэхнічнай і мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна горада Мінска «Зорка». Сюды завіталі навучэнцы сталічных школ № 12 і 125, мінскіх гімназій № 13, 19 і 27.

У маленстве Але Дзмітрыеўне давялося перажыць жахі блакады. У тыя цяжкія дні пачала пісаць першыя вершы. Выступаючы перад навучэнцамі, жанчына прыкметна хвалявалася. Прапускаць праз сэрца перажытае заўсёды вельмі балюча, таму яна не так часта з'яўляецца перад аўдыторыяй.

— Нічога падобнага да блакады Ленінграда ў сусветнай гісторыі не было, — пачала яна свой расповед. — Кіраўніцтва горада пастаралася вывезці ў тыл як мага больш жанчын, дзяцей. Хлопчыкаў і дзяўчынак забіралі проста з садзікаў, школ і вывучалі ўглыб краіны.

8 верасня павінна была выправіцца ў акупацыю і пяцігадовая Ала разам з маці.

— Перад намі адправіўся эшалон, наступным павінны былі выехаць мы, але хутка стала вядома, што немцы, нягледзячы на сцягі Чырвонага Крыжа, разбамбілі той поезд і перакрылі апошні чыгуначны шлях, — прадужае аповед госця. — Паведамілі, што мы ўжо нікуды не паедзем.



Ала Чорная знаёміць слухачоў з творам Алеся Адамовіча і Данііла Граніна «Блакадная кніга».

Нельга сказаць, што Ленінград не быў гатовы вытрымаць поўнае і працяглае акружэнне. На так званых Бадаеўскіх складах меліся агромністыя запасы прадуктаў, але немцы, даведаўшыся пра гэта, 12 верасня разбамбілі амаль усё. Склады гарэлі больш як тыдзень… А ў людзей запасаў не было. Ужо ў лістападзе масава паміралі з голаду...

Падчас імпрэзы прагучаў малавядомы факт. Аказваецца, да вайны ў Ленінград з Беларусі выправілася 24 тысячы хлопчыкаў для асваення рабочых спецыяльнасцей. Беларусам былі створаны добрыя ўмовы для навучання, пражывання і адпачынку. Разам з юнымі ленінградцамі менавіта гэтыя падлеткі замянілі дарослых, якія пайшлі змагацца з ворагам, сталі да станкоў — вастрыць снарады, рамантаваць тэхніку... Многія з іх, нягледзячы на тое, што атрымлівалі па 350 грамаў хлеба (норма для мужчын-рабочых), тут жа, на працоўным месцы, паміралі ад знясілення. Але ніхто не адмаўляўся ад працы. Юных беларусаў выжыла вельмі мала. Праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля вайны на Піскароўскіх могілках быў усталяваны Помнік беларускім рамеснікам.

Падчас бамбёжак мужныя падлеткі і юнакі падымаліся на дахі дамоў і гасілі запальныя бомбы. Піянеры і камсамольцы стварылі спецыяльныя атрады, якія абыходзілі дамы, каб знайсці яшчэ жывых. Маці аддавалі свой хлеб дзецям, а самі згасалі… Часта каля памерлай жанчыны знаходзілі ледзь жывое малое. Так адшукалі і дванаццацігадовую Таню Савічаву, якая вяла дзённік страшных падзей. Дзяўчынку вывезлі па Дарозе жыцця праз возера Ладага, але яна больш не магла трымацца і памерла ў дзіцячым прыёмніку. «Дзённік Тані Савічавай» быў выдадзены (у ім сем страшных запісаў пра гібель яе вялікай сям'і ў блакадным Ленінградзе). Гэтую маленькую запісную кніжку прад'явілі на Нюрнбергскім працэсе ў якасці дакумента, які абвінавачвае фашызм.

Праз нейкі час па Дарозе жыцця вывезлі і маленькую Алу з маці. Але забыць тое, што адбывалася ў блакадным Ленінградзе, немагчыма…

Удзельнікаў імпрэзы ўспаміны госці кранулі. Упэўнена, пра сустрэчу з Алай Чорнай яны раскажуць сваім дзецям і ўнукам. І пакажуць фотаздымкі, дзе яны разам з Алай Дзмітрыеўнай.

Як зазначыла метадыст «Зоркі» Валянціна Ергольская, падобныя мерапрыемствы, куды запрашаюць людзей творчых, з незвычайным лёсам, праходзяць у цэнтры раз на чвэрць.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

*Да ведама*

**Ала Чорная пасля вайны скончыла Ленінградскі электратэхнічны інстытут па спецыяльнасці «Фізіка». Разам з мужам па размеркаванні ў 1963 г. прыехала ў Мінск і з тых часоў жыве ў Беларусі. Працавала ў інстытуце фізікі і фізіка-тэхнічным інстытуце Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, рэдактарам у рэдакцыі літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання. Член Саюза расійскіх пісьменнікаў і Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 2006-м ёй была ўручана грамата Асацыяцыі пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі за адраджэнне тэмы духоўнасці ў рускай літаратуры. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў: «Вецер над горадам», «Адварот серабрысты ліста», «Люстэрка». Вершы Алы Чорнай друкаваліся ў часопісах «Новая Немига Литературная», «Нёман» і інш.**

*Млын навін*

# «Палескія матывы»

Пад такою назваю адкрылася выстаўка пейзажнай фатаграфіі Віктара Босака ў Дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль». Цішыня імглістай раніцы, невымоўнае зачараванне летніх заходаў, векавыя дрэвы, якія ўглядаюцца ў рачную роўнядзь, — усё гэта натхніла Віктара Босака на стварэнне серыі работ, прысвечаных унікальнай прыродзе Палескага краю.

Фатограф жыве і працуе ў Брэсце, выкладае ва ўніверсітэце. Захапляецца паляваннем і рыбалкай, таму можа ўбачавідкі сузіраць непаўторную прыгажосць беларускіх пейзажаў. Работы фотамастака шырока прадстаўлены ў віртуальных галерэях на міжнародным сайце *PhotoCentra*, на галоўным беларускім фотасайце *Znyata*. У 2013 г. на базе народнага фотаклуба «Мінск» адбылася першая персанальная выстаўка Віктара Босака «Паводка», праз год — «Мелодыя ранішняга свята».

* * *

Конкурс відэаролікаў «75 гадоў гераічнай абароне Магілёва» праводзяць у абласным цэнтры. Усё жадаючых могуць прадставіць да 25 красавіка як індывідуальныя, так і калектыўныя творчыя работы, а кампетэнтнае журы вызначыць лепшыя ролікі з улікам арыгінальнасці ідэі, якасці тэхнічнага выканання і мастацкага ўзроўню твора. Пераможцы конкурсу будуць узнагароджаны дыпломамі і каштоўнымі падарункамі. Мэта творчага спаборніцтва — прыцягненне ўвагі грамадскасці да подзвігаў вайскоўцаў і мясцовых жыхароў пры абароне Магілёва падчас Вялікай Айчыннай вайны. Конкурс накіраваны на выхаванне пачуццяў патрыятызму ў падрастаючага пакалення.

* * *

Восем гадоў у сярэдняй агульнаадукацыйнай школе № 40 г. Гомеля пад кіраўніцтвам нястомнага прапагандыста роднай мовы і культуры Марыны Мытнікавай паспяхова дзейнічае фальклорны гурт «Лялькі». Дзіцячы калектыў добра ведаюць у абласным цэнтры, «Лялькі» рэгулярна выступаюць на розных сцэнічных пляцоўках, прапагандуюць народнае мастацтва.

«Лялькі» — пераможцы гарадскога конкурсу «Святло каляднай зоркі». Фальклорны гурт паспяхова выступіў і падчас мерапрыемстваў, якія нядаўна ладзіліся ў роднай школе з нагоды тыдня беларускай і рускай мовы.

* * *

Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў і «Дзіцячыя экамайстэрні» запрашаюць у сакавіку на вясновы курс па экаарце. Будзе створана група для дзяцей ад 3 да 6 гадоў, працягне работу і група для хлопчыкаў і дзяўчынак 7—13-гадовага ўзросту. Тэмы курса: дэкаратыўна-прыкладная творчасць з прыроднымі матэрыялаў, лэнд-арт і *upcycling*.

Экаарт — гэта магчымасць пазнаёміцца бліжэй з прыроднымі формамі, разглядзець тэкстуры, колеры, бачыць прыгажосць вакол.

* * *

Выстаўка вышытых карцін «Прадчуванне вясны» клуба «Сузор'е» грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз жанчын» працуе ў арт-холе Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Клуб «Сузор'е» дзейнічае больш як восем гадоў і аб'ядноўвае жанчын розных узростаў і прафесій. За гэты час рэалізавана каля 30 праектаў.

Паводле кіраўніка клуба Наталлі Сак, майстрыхі ўсё звычайнае ператвараюць у чароўнае, бо нездарма кажуць, што вышывальшчыцы бачаць свет праз вушка іголкі. Кожная праца — маленькі шэдэўр.

Выстаўка падрыхтавана пры падтрымцы мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

*З пошты «ЛіМа»*

# Летапіс Расіі

## стварыў у мануменце беларус з Магілёўшчыны

**Шмат гадоў таму з калегамі па выдавецтве мы апынуліся ў ноўгарадскім Крамлі каля высокага манумента, які нагадваў звон. Ён быў аздоблены двума ярусамі мастацкіх вобразаў. На верхнім ярусе — вялікія скульптуры гістарычных асоб, на ніжнім — гарэльеф расійскім знакамітасцям.**

Верх помніка ўпрыгожваў шар з алегарычнымі постацямі. «Гэта твор 1862 года, прысвечаны тысячагоддзю дзяржавы расійскай. Яго аўтар Міхаіл Мікешын, лёс якога звязаны з вашым краем», — патлумачыў экскурсавод.

Калі праект манумента «Тысячагоддзе Расіі» заняў першае места ў юбілейным конкурсе, мастаку было толькі 25 год. Але ён ужо скончыў у Пецярбургу Акадэмію мастацтваў і здолеў увасобіць у конкурсным творы сапраўдны летапіс Расіі. Мы быццам гарталі старонкі гісторыі: Кулікова поле, Чудскае возера, Палтава, Барадзіно… Сярод 109 гарэльефных вобразаў — Ламаносаў, Кутузаў, Пушкін, Глінка, Нахімаў… І сёння скульптуры па праектах Мікешына ўпрыгожваюць плошчы розных гарадоў. Сярод іх давялося пабачыць вы-датны помнік Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве.

Летась споўнілася 180 год з дня нараджэння таленавітага творцы. У энцыклапедыях месцам яго нараджэння значыцца сяло Прохараўка Смаленскай вобласці. Але, як зазначаў мастацтвазнаўца Леанід Дробаў, у тыя часы гэты населены пункт належаў Магілёўскай губерніі. Мастак лічыў сябе беларусам і прысвяціў радзіме шмат работ. Асаблівае месца займаюць малюнкі з жыцця простага народа. Да некаторых работ аўтар даваў пашыраныя надпісы — як у выпадку з мужыкамі каля карчмы: «Без музыкі, без дуды хозяйн ногі не туды». На іншых — дыялог персанажаў, напрыклад, у «Сустрэчы каля калодзежа».

Пэўная частка малюнкаў зроблена ў Клімавічах, куды Мікешын ездзіў да сястры. На жаль, большасць з іх да нас не дайшла. Міхаіл Восіпавіч таксама ілюстраваў творы мастацкай літаратуры, аўтары якіх з часам сталі класікамі. Выдаваў і рэдагаваў часопіс «Пчала». Сакавітай, арыгінальнай мовай, глыбока, са спачуваннем Мікешын пісаў пра Беларусь. Ад пранікнёных тэкстаў Мікешына можна і плакаць, і доўга смяяцца.

Вядома, што мастак любіў музыку, іграў на музычных інструментах.

Спадчына выдатнага земляка чакае далейшага даследавання і вывучэння.

**Святлана РУСАКОВІЧ**

# Сяброўскі ўспамін

## Маленькія гісторыі пра вялікага чалавека

**Зрабіць не проста фотаздымак, а паведаміць гісторыю, падкрэсліць дэталі, адлюстраваць характар і эмоцыі ўласціва толькі майстру. Фатаграфія — не звычайны погляд праз аб'ектыў, а канцэнтрацыя на цікавасці. Зрабіўшы ўдалы кадр, фотамастак пераносіць героя ў вечнасць. Ён дае магчымасць нашчадкам пазнаёміцца з вядомымі, таленавітымі асобамі, гістарычнымі падзеямі, неверагоднымі з'явамі. Фотамастак захоўвае гісторыю, аддае гледачу тонкае бачанне і адчуванне моманту. Цікавым прыкладам майстра, які па жыцці сябруе з фотатэхнікай, з'яўляецца Юрый Іваноў. Яго імя сапраўды легендарнае: праглядаючы спіс лепшых фатографаў Беларусі, вы знойдзеце яго прозвішча. Але ж справа хутчэй не ў спісе, а ў асобе, у таленце быць запатрабаваным, быць чалавекам. Да асабістых работ Юрый Сяргеевіч ставіцца як да дзяцей, гаворыць, што любіць кожную, бо нялюбых дзяцей не бывае.**

Напярэдадні ў сталічнай галерэі «Універсітэт культуры» адкрылася яго выстаўка невядомых фотаздымкаў блізкага сябра, мастацкага кіраўніка вакальна-інструментальнага ансамбля «Песняры» Уладзіміра Мулявіна. У экспазіцыі прадстаўлены партрэты, фрагменты з гастроляў, цікавыя моманты асабістага жыцця. Многія работы дэманструюцца ўпершыню, некаторыя ўвогуле былі праяўлены апошнім часам са старых плёнак. Кожны здымак — гісторыя, цікавая і запамінальная. Юрый Іваноў памятае, як былі зроблены ўсе кадры, быццам гэта сёння. Пра некаторыя работы, свораныя ў розныя перыяды творчасці Уладзіміра Мулявіна, ён падзяліўся з нашым выданнем:

1



1977 год.

2



1981 год.

3



1986 год.

*Фота 1.* — У Валодзі была рэпетыцыя ў касцюмах у філармоніі. А я даведаўся, што ў гэты ж дзень на тэлебачанні будзе праходзіць запіс выступу аднаго з народных ансамбляў. Я папрасіў Валодзю паехаць туды са мной, каб паглядзець, што будзе адбывацца на тэлевізійнай пляцоўцы, і зрабіць там некалькі здымкаў. Застаўшыся ў сцэнічным касцюме, ён згадзіўся і паехаў са мной. Мы прыехалі на вуліцу Камуністычную, дзе тады быў адзіны будынак тэлебачання, увапваліся ў студыю, як аказалася, перапынілі запіс і ў выніку, скарыстаўшыся сітуацыяй, зрабілі там чатыры фотаздымкі. Нават і не ведаю, чаму тады ён паехаў са мной. Напэўна, давяраў. *(Усміхаецца.)*

*Фота 2.* Была зіма. Я працаваў над кнігай пра Мсціслаўль. Тады ў горадзе дзейнічаў мясцовы конезавод, у якім вырошчвалі цяжкавагавікоў для продажу ў Савецкім Саюзе. Завод трэба было паказаць незвычайна, ды і не хацелася мне проста фатаграфаваць коней. Крыху падумаўшы, я прыйшоў да дырэктара і сказаў, што паспрабую дамовіцца з Уладзімірам Мулявіным для фота ў тройцы, і, магчыма, у Мсціслаўль прыедуць «Песняры». Дырэктар пачаў задыхацца ад хвалявання, не паверыў адразу.

Па вяртанні ў Мінск я сустрэўся з Валодзем, распавёў яму пра прыгажосць Мсціслаўля і завод, прапанаваў у тройцы коней зрабіць некалькі фотаздымкаў «Песняроў». Валодзя пагадзіўся. Аднак за дні тры-чатыры да выезду я прыйшоў да яго ў філармонію зноў — удакладніць, едзем ці не. Ён сказаў, што ім далі запрашэнне на канцэрт у Адэсу, дзе прапанавалі добрыя ўмовы выступлення, і таму, хутчэй за ўсё, наведаць Мсціслаўль не атрымаецца. А я ж разумеў, што ў Мсціслаўлі чакаюць людзі, якія падрыхтаваліся да сустрэчы, падрыхтавалі нават сцэну. Я тады нічога не сказаў. Мы глядзелі адзін на аднаго секунд дваццаць-трыццаць. У выніку ён адвёў позірк убок і крыкнуў дырэктару ансамбля: «Пішы тэлеграму ў Адэсу, што ўсе захварэлі». Праз некалькі дзён «Песняры» былі ў Мсціслаўлі.

4



1986 год.

*Фота 3.* Неяк мы з Валодзем дамаўляліся зрабіць агульны здымак «Песняроў», але не маглі вызначыцца з часам. Ён прапанаваў сустрэцца першага мая, таму што ведаў: усе пойдуць на дэманстрацыю і будуць у касцюмах. Мы сустрэліся ў Траецкім прадмесці, пагаварылі і пачалі працаваць. Але на здымках «Песняры» атрымліваліся сумныя. Якраз тады здарылася жудасная аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі.

Усё ж я працягваў фатаграфаваць, спрабаваў смяшыць іх. У выніку здымкі атрымаліся.

*Фота 4.* Гэты партрэт таксама быў зроблены ў той дзень (1 мая 1986 г.). Але тут я нават не спрабаваў рассмяшыць Валодзю, не адважыўся парушыць яго задуменнасць. Хоць ён і быў чалавекам з гумарам, але ж якасці разумець у яго нельга было адняць.

У гэтым годзе легендарнаму песняру споўнілася б 75 год. Прыемна, што з часам памяць пра Уладзіміра Мулявіна не знікае, бо яшчэ існуюць асобы, неабыякавыя да творчасці і асобы артыста, якія калісьці адрадзіў цікавасць да беларускага фальклору. Юрый Іваноў — добры прыклад чалавека, які не пакінуў здымкі песняра ляжаць на паліцы, а падарыў магчымасць гледачу больш даведацца пра Уладзіміра Мулявіна альбо ўвогуле адкрыць творцу з новага боку.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс

Лепельскі цмок стаў для нашага горада турыстычным брэндам. Тут ужо двойчы праводзіўся фестываль беларускай міфалогіі «У госці да Лепельскага Цмока» — з удзелам музыкаў, фалькларыстаў і добраахвотных даследчыкаў народнай спадчыны, а таксама носьбітаў гэтае самае спадчыны. А пачалося ўсё з Караткевіча, дакладней, яго згадкі пра дзіўную жывёліну, якая ў далёкім шаснаццатым стагоддзі з'явілася на беразе Лепельскага возера.

Сучасны цмок «жыве» тут жа, у прыазёрным гарадскім парку, і выглядае гэтак жа, як апісаў яго Караткевіч: «Выглядам той цмок быў, як звер фока (цюлень), такі самы льсняны, у складках, толькі без поўсці. І шэры, як фока. (…) Тулава мелі тыя цмокі шырокае і трохі пляскатае, і мелі яны плаўнікі — не такія, як у рыбы, а такія таксама, як у фокі, таўстамясыя, шырокія, але не дужа доўгія. Шыю мелі, па тулаву, дык тонкую і надта доўгую. А на шыі сядзела галава, адначасова падобная і на галаву змяі, і на галаву лані».

Аўтар гэтай скульптуры — Леў Аганаў. Дарэчы, ён жа стварыў бронзавага Льва Сапегу, які сустракае наведнікаў парка: напрыканцы XVI стагоддзя адзін з самых уплывовых магнатаў ВКЛ заснаваў непадалёк ад «старога» Лепеля, у вёсцы Белае, Новы Лепель, які і стаў сучасным горадам.

**Лізавета ГРЫШЧУК**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
3.03.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1935.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 981

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686